# АБ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫМ СТАНОВІШЧЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

***Даклад прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь М. М. Чыгіра на сесіі Вярхоўнага Савета (8 лютага 1996 года)***

Паважаны Старшыня Вярхоўнага Савета!
Паважаныя дэпутаты Вярхоўнага Савета!

Агульнапрызнаным абагульняючым паказчыкам узроўню развіцця той або іншай краіны з'яўляецца вытворчасць валавога ўнутранага прадукту ў разліку на душу насельніцтва. Сусветны банк і ААН па гэтым паказчыку размяркоўваюць усе краіны на тры асноўныя групы: з нізкім даходам — да 695 долараў ЗША, з сярэднім даходам — ад 696 да 8625 долараў ЗША і з высокім даходам — звыш 8626 долараў ЗША. У сваю чаргу краіны з сярэднім даходам падраздзяляюцца на дзве падгрупы: ніжэй сярэдняга — ад 696 да 2785 долараў ЗША і вышэй сярэдняга — ад 2785 да 8625 долараў ЗША.

**1. РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ І СУСВЕТНАЯ ЭКАНОМІКА**

У Рэспубліцы Беларусь у мінулым годзе ў разліку на душу насельніцтва выраблена валавога ўнутранага прадукту на 2272 долары ЗША, калі весці ўлік па методыцы ААН. Гэта значыць, мы адносімся да групы краін з узроўнем даходу ніжэй сярэдняга. Калі ж разлічыць вытворчасць валавога ўнутранага прадукту на душу насельніцтва зыходзячы з даных Мінстата рэспублікі і выкарыстаць сярэдні курс нацыянальнай валюты, то яна складзе ў 1995 годзе 996 долараў ЗША.

Калі параўноўваць з іншымі краінамі, то можна прывесці такія даныя. У Фінляндыі вытворчасць валавога ўнутранага прадукту на душу насельніцтва складае 18.970 долараў ЗША, у Аўстрыі — 23.120 долараў, у Швецыі — 24.830 долараў, у Швейцарыі — 36.410 долараў ЗША.

Вытворчасць валавога ўнутранага прадукту на душу насельніцтва характарызуе ўзровень прадукцыйнасці працы. Таму прыведзеныя даныя з расшыфроўкай па галінах павінны служыць як бы эталонам для айчынных таваравытворцаў.

Я разумею, што складана выйсці на сусветныя стандарты, напрыклад, у машынабудаванні, электроніцы, іншых навукаёмістых галінах, але што датычыць сельскай гаспадаркі, то тут шанцаў намнога больш і нам неабходна распрацаваць галіновую праграму па карэнным паляпшэнні спраў у сельскай гаспадарцы, паклаўшы ў аснову істотнае зніжэнне затрат на вытворчасць прадукцыі і павышэнне прадукцыйнасці працы.

Прыметна ўступае наша рэспубліка высокаразвітым краінам Заходняй Еўропы і па такім паказчыку, як працягласць жыцця. Сур'ёзна нас павінна непакоіць таксама і тое, што ў апошнія гады адсутнічае натуральны прырост насельніцтва.

Рэспубліка Беларусь адносіцца да шэрага дзяржаў, бедных на карысныя выкапні. І жыццёва важным для нас з'яўляецца забеспячэнне паставак у рэспубліку нафты (каля 10 млн. тон), газу (14 млрд. куб. метраў), металаў і іншых сыравінных рэсурсаў.

Толькі за пастаўку нафты і газу рэспубліка павінна плаціць штогод звыш 1,6 млн. долараў ЗША пры цане газу 50 долараў за 1 тысячу кубаметраў і нафты — 90 долараў за тону.

З сельскагаспадарчай прадукцыі рэспубліка павінна штогод увозіць не менш як 1 млн. тон харчовага і фуражнага збожжа, 200 тыс. тон цукру, 60 тыс. тон алею, 50 тыс. тон рыбнай прадукцыі.

Крыніцай аплаты імпартуемых сыравінных рэсурсаў і харчавання можа быць толькі выручка ад экспарту, гэта значыць рэалізацыя прадукцыі беларускіх таваравытворцаў на знешнім рынку.

Збалансаванасць экспартных і імпартных паставак, а лепш за ўсё перавышэнне экспарту сведчаць аб эканамічнай незалежнасці дзяржавы.

На жаль, тут у нас справы ідуць далёка не лепшым чынам. У 1994 годзе адмоўнае сальда гандлёвага балансу склала 556 млн. долараў ЗША. Паводле папярэдніх даных, у 1995 годзе яно складзе прыкладна 400 млн. долараў ЗША.

Адмоўнае сальда знешнегандлёвага абароту, што мела месца на працягу шэрага апошніх гадоў, а таксама некаторыя іншыя прычыны прывялі да ўтварэння знешняга доўгу Рэспублікі Беларусь перад Расіяй, Міжнародным валютным фондам, а таксама заходнімі краінамі.

Знешні доўг па стану на 1 студзеня 1996 года склаў 1502 млн. долараў ЗША. За год ён вырас на 248 млн. долараў ЗША. Пры гэтым адбылося структурнае змяненне доўгу ў бок павелічэння яго па самаакупных праектах.

Як станоўчы момант трэба адзначыць, што на пачатак 1995 года чыстыя замежныя актывы мелі адмоўную велічыню, а на пачатак бягучага года склалі 119 млн. долараў ЗША.

Да знешняга доўгу не адносяцца даўгі суб'ектаў гаспадарання. Асноўная сума тут лічыцца па пастаўках газу з Расійскага акцыянернага аб'яднання «Газпром». Доўг асноўны па газу павялічыўся ў 1995 годзе з 417 да 597 млн. долараў ЗША.

Доўг па газу — адна з важнейшых эканамічных праблем. У ходзе перагавораў з Расіяй удалося крыху знізіць цану на газ (8,5 працэнта). За студзень пастаўлена газу ў рэспубліку амаль на 82 млн. долараў ЗША, аплачана толькі 39. Мы абавязаны зрабіць усё, каб забяспечыць на гэтым этапе разлікі хоць бы па бягучых пастаўках газу. Пакуль гэта зрабіць не ўдаецца.

Цяпер вядуцца перагаворы з Расіяй аб так званым нулявым варыянце. Канчатковае рашэнне, відавочна, будзе прынята ў ходзе афіцыйнага візіту ў Расію Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі.

Адзіны выхад для спынення росту знешняга доўгу — нарошчванне экспартнага патэнцыялу рэспублікі. За мінулы год у доларавым вылічэнні экспарт павялічыўся больш чым на 70 працэнтаў і склаў 4,2 млрд. долараў ЗША.

Для параўнання скажу, што экспарт Фінляндыі складае 23,4 млрд. долараў, Даніі — 72, Аўстрыі — 40, Швецыі — 49, Швейцарыі — 61 млрд. долараў ЗША.

Я назваў толькі тыя краіны, якія маюць колькасць насельніцтва значна меншую, чым Рэспубліка Беларусь. Па многіх з гэтых краін экспарт паслуг у некалькі разоў перавышае экспарт сыравіны і гатовай прадукцыі з Рэспублікі Беларусь.

На становішчы Рэспублікі Беларусь у сусветнай эканоміцы я даволі падрабязна спыніўся для таго, каб дэпутаты ўяўлялі стан нашай эканомікі ў параўнанні з іншымі дзяржавамі.

Калі аналізаваць статыстыку краін—удзельніц СНД, то тут становішча, вядома, выглядае крыху лепш. Аднак не трэба забываць, што забяспечанасць прыроднымі рэсурсамі ў большасці краін СНД намнога вышэй, чым у нашай рэспубліцы.

**2. АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАГА СТАНОВІШЧА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

Як вядома ўсім прысутным, пачынаючы з 1991 года ў рэспубліцы назіралася пагаршэнне асноўных эканамічных паказчыкаў. Валавы ўнутраны прадукт у 1995 годзе скараціўся ў параўнанні з 1990-м на 37,3 працэнта, у тым ліку ў мінулым годзе адбылося яго змяншэнне ў параўнанні з 1994-м на 9,6 працэнта.

Асноўнымі прычынамі скарачэння аб'ёмаў вытворчасці паслужылі пагаршэнне знешніх умоў гаспадарання і звужэнне рынкаў збыту нашай прадукцыі.

Распад СССР і ўтварэнне незалежнай Рэспублікі Беларусь зрабілі незваротным працэс адаптацыі эканомікі нашай дзяржавы да сусветных умоў гаспадарання. У сувязі з гэтым асабліва высокімі тэмпамі, набліжаючыся паступова да сусветных, раслі цэны на імпартуемыя з Расіі энерганосьбіты. У 1993 годзе сярэднегадавая цана на нафту склала 21,7 долара ЗША за тону, на газ — 35,7 долара за 1 тысячу кубаметраў, у 1994 годзе — 57 і 50 долараў адпаведна, а ў 1995 годзе — 80 і 53 долары ЗША.

Дадатковая нагрузка на эканоміку з-за росту цэн на нафту і газ у 1995 годзе ў параўнанні з 1993 годам склала 825 млн. долараў ЗША.

Аналагічная карціна назіралася і па іншых відах завозімай сыравіны і матэрыялаў. Так, цэны на металы павялічыліся ў мінулым годзе на 30—50 працэнтаў, а на камплектуючыя вырабы — на 40—70 працэнтаў.

Менавіта тут тоіцца асноўная прычына страты ўласных абаротных сродкаў многімі прадпрыемствамі. Такія змяненні ў знешніх умовах гаспадарання надаюць асаблівае значэнне зніжэнню выдаткаў вытворчасці. Калі не прыняць у гэтым напрамку рашучых мераў, то многія віды айчыннай прадукцыі ў хуткім часе акажуцца неканкурэнтаздольнымі ў параўнанні з замежнымі аналагамі.

Як паказвае аналіз, большасць прадпрыемстваў рэспублікі ў два-тры разы перавышае нормы расходаў сыравіны, матэрыялаў і энергіі на адзінку прадукцыі ці на 1 долар валавога ўнутранага прадукту ў параўнанні з сусветнымі стандартамі. Пры вельмі сціплай якасці айчыннай прадукцыі гэта рэальная пагроза страціць любы рынак збыту, уключаючы рэспубліканскі.

Рост цэн на сыравіну і матэрыялы абарочваецца для рэспублікі вялікімі дадатковымі фінансавымі расходамі. Гэтыя абставіны сур'ёзна абмежавалі магчымасці рэспублікі ў вырашэнні многіх сацыяльна-эканамічных праблем.

Бессэнсоўнымі ў гэтай сітуацыі выглядаюць разважанні і надзеі на паступленне звонку за «бясцэнак» энерганосьбітаў і сыравіны, як гэта было ў мінулым.

Звужэнне рынкаў збыту ў рэспубліцы і іншых краінах СНД адбылося з-за агульнага крызіснага стану эканомікі і рэзкага зніжэння пакупной здольнасці як насельніцтва, так і прадпрыемстваў і арганізацый. У гэтай складанай сітуацыі актыўны выхад на знешнія рынкі далёкага замежжа можа стаць выратавальным кругам для таваравытворцаў.

Пры складанай сітуацыі ў цэлым трэба прызнаць, што многія працоўныя калектывы ў выніку актыўнага пошуку шляхоў павышэння эфектыўнасці вытворчасці дабіліся няблагіх вынікаў. Сюды можна аднесці БелАЗ, «Мілавіцу», «Атлант», народнае прадпрыемства «Маладзечна-мэбля», ААТ «Керамін», племзавод «Чырвоная Зорка» Клецкага раёна, калгас «Кастрычнік» Гродзенскага раёна і цэлы шэраг іншых.

Бачачы вельмі складаную сітуацыю, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь і ўрад рабілі ўсё магчымае для недапушчэння абвальных працэсаў у эканоміцы. Важным момантам пры гэтым з'явілася фарміраванне мытнага саюза і далейшае развіццё эканамічнай інтэграцыі краін СНД.

На першым этапе адменены тарыфныя і колькасныя абмежаванні ва ўзаемным гандлі, устаноўлены адзіныя гандлёвыя рэжымы ў адносінах да трэціх краін. Падпісаўшы пагадненне аб адзінай мытнай прасторы, Расія адмовілася ад стварэння ў сябе альтэрнатыўных вытворчасцей. Прадпрыемствы рэспублікі атрымалі свабодны допуск на расійскія рынкі. Пастаўкі энерганосьбітаў і сыравінных рэсурсаў з Расіі вызвалены ад мытных збораў. Усё гэта ў сукупнасці дазволіла атрымаць рэспубліцы прыметны эканамічны эфект.

Становішча, якое склалася ў эканоміцы ў 1994 годзе, запатрабавала новых падыходаў у грашова-крэдытнай і фінансавай палітыцы. 1995 год быў годам жорсткай грашова-крэдытнай палітыкі і прывядзення расходнай часткі бюджэту ў адпаведнасць з даходамі.

**(Заканчэнне ў наступным нумары).**

***ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК***

# НАД КІРАЎНІЦТВАМ СПРАВАМІ ЗБІРАЮЦЦА ХМАРЫ?

Учора ў Вярхоўным Савеце Беларусі чакалася выступленне міністра замежных спраў сп. Сянько. Але з-за таго, што ў нашу краіну прыехаў яго калега з Літвы, кіраўнік знешнепалітычнага ведамства з'явіцца да прызначанага часу не змог.

Таму «рознае» пачалося ўчора з выступлення дэпутатаў. У прыватнасці, Анатоль Волкаў і Анатоль Малахоўскі засяродзілі ўвагу калег на хвалюючай тэме наступстваў ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, на ўмовах, у якіх сёння жывуць людзі пацярпеўшых раёнаў. Гэтыя выступленні прагучалі лагічным працягам сказанаму яшчэ днём раней. На вячэрнім пасяджэнні 8 лютага частка дэпутатаў прапанавала абмеркаваць чарнобыльскія праблемы на самым высокім узроўні: у парламентах Беларусі, Расіі і Украіны. Тэрмінова неабходна вырашаць гэтае пытанне, бо Беларусь фактычна аказалася адзін на адзін з бядой, паколькі Расія спыніла фінансаванне мерапрыемстваў па ліквідацыі наступстваў ад аварыі на ЧАЭС яшчэ ў 1994 годзе, нягледзячы на існуючыя дамоўленасці. Менавіта гэтая думка была дамініруючай у выступленнях дэпутатаў заўчора.

Не магу не звярнуць увагу і на выступленне дэпутата Эдуарда Вайцэховіча. Гэта была рэакцыя на інтэрв'ю «Звяздзе» намесніка старшыні Вярхоўнага Савета сп. Малумава, дзе ён выказаў сумненні ў неабходнасці існавання Канстытуцыйнага суда ў Рэспубліцы Беларусь. «Крыўдна слухаць, што ў нашай краіне падвяргаюцца сумненню такія паняцці, абмеркаванне якіх у іншых дзяржавах выклікае лёгкую іронію ці здзіўленне. Яны гэтак жа непарушны, як Радзіма, дом, маці. Канстытуцыйны суд з'яўляецца непахіснай асновай балансу трох галін улады. Без яго проста немагчыма верхавенства Закона», — заявіў дэпутат. Яму вельмі хацелася пачуць тлумачэнні ад Юрыя Малумава, але таго не было ў зале. Па неафіцыйнай інфармацыі намеснік кіраўніка парламента зможа прыняць удзел у рабоце Вярхоўнага Савета толькі праз тыдні тры, паколькі пасля разрыву звязак нагі ён знаходзіцца на лячэнні.

Пасля «living рознага» парламент прыступіў да работы над законапраектам «Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь». На руках у дэпутатаў было два варыянты: адзін прапанаваны Прэзідэнтам, а другі — камісіяй па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню. У іх аснове было імкненне зменшыць колькасць дэпутатаў мясцовых Саветаў, неабходную для пачатку іх работы, з двух трацей да паловы. Гэта дазволіла б нейкім чынам вырашыць у некаторых гарадах праблему адсутнасці органаў прадстаўнічай улады. Тым не менш, прапанову дэпутаты ўспрынялі ў штыкі і накіравалі праекты на дапрацоўку. Падставы для гэтага былі розныя. Вось, напрыклад, што сказаў Віктар Ганчар: «Няўжо незразумела, што гэта палітычнае пытанне. Бо пасля такога закона ні аб якіх давыбарах Вярхоўнага і мясцовых Саветаў размова весціся не будзе».

Не адбылося ўчора і чакаемага пачатку абмеркавання паправак у падатковае заканадаўства. Да гэтай тытанічнай работы аказаўся непадрыхтаваным у патрэбнай меры ні парламент, ні камісія сп. Башарымава. Апошні папрасіў у Вярхоўнага Савета перанесці разгляд гэтага пытання на наступны тыдзень.

Застаўшуюся частку пленарнага пасяджэння дэпутаты прысвяцілі таму, што часткова зацвердзілі парадак дня бягучай сесіі. У прыватнасці, у ім ужо значыцца каля 15 пунктаў. Найбольш важныя сярод іх: унясенне змяненняў у падатковае заканадаўства, даклад Прэзідэнта аб стане дзяржавы, ратыфікацыя міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь.

Прынята рашэнне аб уключэнні ў павестку пытанняў аб стварэнні трох часовых камісій Вярхоўнага Савета. Адна з іх заклікана ацаніць правамернасць перадачы Кіраванню справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, а таксама нерухомасці, якая не адносіцца да забеспячэння дзейнасці Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Аргументуючы неабходнасць стварэння такой камісіі сп. Ганчар заявіў, што «Кіраўніцтва справамі ператварылася ў структуру, дзякуючы якой разбазарваюцца сродкі, абагачаюцца асобы з цёмным мінулым... Кіраўніцтва справамі ў сваёй дзейнасці ўжо парушыла дзесяткі законаў».

Сесія працягне работу 14 лютага.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

***ПРАМАЯ ЛІНІЯ***

## Вам адкажа віцэ-прэм'ер Кабінета Міністраў Уладзімір Гіляравіч ГАРКУН

Сельская гаспадарка, увесь аграпрамысловы комплекс аказаліся ў найскладанейшым становішчы. Прычыны таго зразумелыя: спад вытворчасці, усеагульны эканамічны крызіс, высокія падаткі на сельскагаспадарчую прадукцыю.

Безумоўна, жыхароў вёскі, літаральна ўсіх працаўнікоў аграпрамысловага комплексу цікавяць пытанні парытэту цэн, своечасовай выплаты заработнай платы.

Мы спадзяёмся, што на гэтыя і многія іншыя пытанні вам, шаноўныя чытачы, адкажа віцэ-прэм'ер Уладзімір Гіляравіч Гаркун, які курыруе аграпрамысловасць і сельскагаспадарчую сферу.

**Уладзімір Гіляравіч згадзіўся прыняць удзел у «прамой лініі» з чытачамі «Звязды»** ***21 лютага а 14-й гадзіне.*** **Звaніце па тэлефонах 32-38-21, 68-29-21.**

***Папярэдне пытанні Уладзіміру Гаркуну можна задаць па тэл. 68-27-50.***

***РЭХА ПАДЗЕЙ***

## ЗНОЎ ЗАГАВАРЫЛІ ПРА РЭФЕРЭНДУМ

На мінулым тыдні зноў загаварылі пра рэферэндум. На гэты раз — наконт паправак у Канстытуцыю.

Абрысы будучага плебісцыту пакуль размытыя, неканкрэтныя, аднак яны ўжо яўна праглядваюць у асцярожных выказваннях першых асоб.

Пробныя закіды, зробленыя спачатку Леанідам Сініцыным, а потым, з невялікім прамежкам у часе, Юрыем Малумавым — адносна неабходнасці скасаваць інстытут Канстытуцыйнага суда ў краіне, — вельмі нагадваюць разведку перад боем. Спрэчка вакол Канстытуцыйнага суда, які даўно не задавальняе Прэзідэнта, цалкам можа перакінуцца ў сцены парламента. А паколькі большасць Вярхоўнага Савета, хутчэй за ўсё, без энтузіязму паставіцца да ідэі скасавання КС, у Аляксандра Лукашэнкі з'явіцца чарговая нагода звярнуцца да народа напрамую. Пры гэтым вельмі можа здарыцца, што паправіць Канстытуцыю кіраўнік дзяржавы захоча не толькі ліквідацыяй інстытута Канстытуцыйнага суда, але і іншымі мерамі, якія ўмацуюць яго ўладу. Напрыклад, такой мерай можа стаць права на роспуск Вярхоўнага Савета, ці пашырэнне пераліку кіраўнікоў ведамстваў, якіх прызначае выключна Прэзідэнт.

Рэзкая заява Аляксандра Лукашэнкі, якая прагучала ў мінулую нядзелю ў тэлепраграме «Рэзананс», пра тое, што ён не дапусціць у бліжэйшы час давыбараў у Вярхоўны Савет, ускосна пацвярджае меркаванне, што кіраўнік дзяржавы не апасаецца абвастрэння адносінаў з парламентам. Бо відавочна, што, выступаючы супраць давыбараў, Прэзідэнт выступае супраць пазіцыі і камуністаў, і дэмакратаў.

Калі ідэя рэферэндуму матэрыялізуецца ў канкрэтныя палітычныя рашэнні — краіну чакае чарговая паласа ўзрушэнняў. Аднак на гэты раз, у адрозненне ад рэферэндуму 1995 года, гульня ў плебісцыт намнога больш рызыкоўная і непрадказальная. Канстытуцыйны суд у масавай свядомасці не асацыіруецца з вобразам ворага Прэзідэнта. Насупраць, для радавога грамадзяніна суд (народны ці Канстытуцыйны — наўрад ці абывацель будзе шукаць розніцу) — сімвал справядлівасці. І звесці яго да сімвала варожай сілы будзе няпроста, тым больш, што інтрыга адносінаў Прэзідэнта і КС замоўчвалася СМІ, і, нягледзячы на ўвесь яе драматызм, шырокім масам яна мала вядомая.

А ўвогуле, якімі б ні былі пытанні магчымага рэферэндуму, галасаваць асноўная маса будзе не «за» ці «супраць» артыкулаў Канстытуцыі, а «за» ці «супраць» Аляксандра Лукашэнкі. Наладжваць такі плебісцыт у сённяшніх эканамічных умовах, калі за паўтара года сітуацыя ні ў адной з галін, акрамя валютнага курса, не палепшылася, — патрэбна вялікая ўпэўненасць ва ўласных сілах. І хоць крэдыт даверу ў цяперашняга Прэзідэнта, паводле многіх сацыялагічных апытанняў, усё яшчэ значны, народная любоў у крызісных умовах — рэч зменлівая. А магчымае паражэнне на рэферэндуме стала б для кіраўніка дзяржавы фактычна вотумам недаверу.

**Валянцін ЖДАНКО.**

«ПРАМАЯ ЛІНІЯ» «ЗВЯЗДЫ»

# Сямён ШАРЭЦКІ: «НАРОД ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ ПРАЎДУ, ЯКОЙ БЫ ГОРКАЙ ЯНА НІ БЫЛА»

**Адна з найбольш дзейсных формаў зваротнай сувязі кіраўнікоў дзяржавы, высокіх чыноўнікаў з народам — «прамыя лініі». Вось і ў час апошняй такой тэлефоннай размовы Старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага з чытачамі «Звязды» тэлефоны не змаўкалі ні на хвіліну. Каля сарака чалавек з розных куткоў рэспублікі патурбавалі Сямёна Георгіевіча сваімі пытаннямі, звярнуліся са сваімі клопатамі. А яшчэ было недзе пад сотню пісьмаў, змест якіх таксама навеяны тымі нялёгкімі праблемамі, з якімі сутыкнуліся ў апошні час нашы суайчыннікі. Яны былі выслуханы з вялікай увагай. І хоць далёка не на ўсе пытанні ўдалося з ходу адказаць, тым не менш, кіраўнік заканадаўчай улады паабяцаў, што ў адпаведных ведамствах і службах уважліва разгледзяць сутнасць узнятых праблем і па магчымасці іх вырашаць. Тое ж самае і адносна паступіўшых у рэдакцыю пісьмаў, адрасаваных кіраўніку парламента.**

**Паколькі ў адной публікацыі немагчыма нават коратка перадаць змест узнятых пытанняў і адказаў, таму спыняемся толькі на тых з іх, на якія Сямён Георгіевіч змог адказаць непасрэдна па тэлефоне. Гэтак падрабязна пра іншыя пытанні і праблемы аўтары званкоў і пісьмаў змогуць даведацца ў наступных нумарах «Звязды», а некаторыя з іх атрымаюць пісьмовыя адказы.**

Патэлефанаваў старшыня Наваполацкага гарсавета **Аляксандр Ніякоўскі**. Яго непакоіць тая сітуацыя, што ў радзе месцаў не абраны мясцовыя Саветы. Сямён Георгіевіч сказаў, што ён валодае сітуацыяй: на сённяшні дзень у рэспубліцы не сфарміраваны 29 Саветаў. Пытанне аб выбарах уключана ў парадак дня сесіі Вярхоўнага Савета, але калі яны будуць праведзены — пакуль сказаць цяжка.

Аляксандр Мечыслававіч выказаў прапанову, каб Старшыня Вярхоўнага Савета правёў семінар-нараду з кіраўнікамі мясцовых Саветаў. Такая нарада, адказаў С. Шарэцкі, будзе праведзена абавязкова, на яе запросяць Прэзідэнта і прэм'ер-міністра Беларусі і сумесна будуць выпрацаваны падыходы да далейшага лёсу самакіравання ў рэспубліцы.

Пытанні ад **Валерыя Грыцука** (Мінск):

— Ці ёсць патрэба ў бліжэйшы час мяняць асобныя артыкулы Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь?

— Лічу, што такая патрэба ёсць. Мы ведаем, што некаторыя артыкулы не адпавядаюць рэаліям жыцця, і іх, натуральна, трэба ўдасканальваць. Але ж не рабіць гэта кожны дзень...

— Як вы лічыце, ці здольны Вярхоўны Савет запатрабаваць ад дзяржаўных органаў і асоб выканання канстытуцыйных нормаў?

— Думаю, што здольны. На тое ж ён і ёсць вышэйшы заканадаўчы орган улады ў краіне.

— Як вы ставіцеся да такой ідэі, як рэформа сістэмы мясцовага самакіравання?..

— Думаю, рабіць там штосьці трэба. Мы зараз вывучаем гэта пытанне.

— Сямён Георгіевіч! У рэспубліцы, як вядома, вельмі трывожная крыміногенная сітуацыя. На вашу думку, ці трэба выкарыстоўваць у барацьбе з негатыўнымі з'явамі не толькі дзяржаўныя, але і грамадскія органы?

— Не сумняваюся, што дапамога грамадскасці ў гэтай справе вельмі патрэбна. А змагацца трэба найперш у адпаведнасці з законамі Рэспублікі Беларусь.

**Леанід Сіўчык** з Мядзельскага раёна, мінчанка **Вера Мікалаеўна** (прозвішча сваё яна не назвала) і многія іншыя чытачы газеты цікавіліся ў Сямёна Шарэцкага адносна паўторных выбараў у Вярхоўны Савет. Вось што сказаў Сямён Георгіевіч:

— Пытанне аб давыбарах уключана ў парадак дня сесіі Вярхоўнага Савета. Але ж зразумейце: гэта запатрабуе вялікіх грошай. З другога боку, людзям было дадзена права выбраць дэпутатаў. Аднак з чатырох спроб яны так і не выбралі сваіх прадстаўнікоў у парламент. Дык у чым справа?! Чаму ж вы не пайшлі тады на выбары?

«Знайсці» сёння яшчэ 20 мільярдаў рублёў на выбары ў бюджэце рэспублікі няпроста. Зноў будуць затрымкі з выплатай пенсій, стыпендый, зарплаты бюджэтнікам. Але, паўтараю, пытанне будзе разглядацца.

Той жа Леанід Сіўчык выказаў нездаволенасць тым, як сродкі масавай інфармацыі, і ў прыватнасці тэлебачанне, асвятляюць работу сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. З боку, падкрэсліў наш чытач, вельмі добра бачна, хто з лідэраў мае рацыю, а хто — не. С. Шарэцкі ў сваю чаргу зазначыў, што цяпер у Вярхоўным Савеце ідзе звычайная будзённая работа, вядзецца напрацоўка новых законапраектаў і многім гэта, хутчэй за ўсё, проста нецікава. Ды і каштуе шматгадзінная трансляцыя па тэлебачанні з Авальнай залы Дома ўрада, дзе праходзяць пасяджэнні Вярхоўнага Савета, вельмі дорага. Тым не менш, прынята рашэнне аб рэгулярным выпуску па Беларускім тэлебачанні «Парламенцкай гадзіны».



— У газеце «Рэспубліка» прачытала нядаўна артыкул «Опасайтесь импортных продуктов». У ім напісана аб небяспецы ўжывання імпартных маргарынаў, шакаладак, якія выклікаюць злаякасныя пухліны і іншыя хваробы. Чаму наша дзяржава дазваляе доступ гэтых прадуктаў у нашы магазіны?

**Валянціна Сенажацкая**, г. Любань.

— Я, на жаль, гэты артыкул не чытаў. Але, вядома, не ўсе замежныя прадукты шкодныя ці нечым там заражаныя. Ёсць міжнародныя стандарты, якім і павінны адпавядаць прадукты харчавання. А на Захадзе за гэтым сочаць вельмі пільна.

Мінчанін **Якаў Добрэр** патэлефанаваў ад імя асоб, узнагароджаных ордэнамі і медалямі за бездакорную працу ў тыле ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Ён паведаміў, што напярэдадні Вярхоўны Савет меў намер прыняць дакумент, у адпаведнасці з якім гэтыя людзі былі прыраўнаваны да ўдзельнікаў вайны. Аднак зрабіць гэта не паспелі. С. Шарэцкі паабяцаў Якаву Рыгоравічу, што да важнага пытання дэпутаты абавязкова вернуцца і вырашаць яго.

— Яшчэ восенню здалі на мясцовы спіртзавод бульбу. Аднак да гэтага часу прадпрыемства не разлічылася за прадукцыю. На ўсе запыты — адказ адзін: няма грошай. Хіба гэта парадак?

**Мікалай Дулуб**, Карэліцкі раён, в. Жухавічы.

— Згодзен з вамі, Мікалай Іванавіч. З людзьмі трэба своечасова разлічвацца. Пастараемся прыняць усе меры, каб вам заплацілі грошы.

— Я з'яўляюся ўладальніцай аблігацыі так званай мэтавай пазыкі 1990 года. Толькі ні абяцаных рэчаў, ні грошай ніхто не аддаў. Хоць ужо ёсць адпаведнае рашэнне Канстытуцыйнага суда ад 21 ліпеня 1995 года, згодна з якім Кабінет Міністраў абавязаны прыняць неабходныя меры, каб разлічыцца з уладальнікамі мэтавай пазыкі. Разумею, што сродкаў не хапае. Аднак, такіх, як я, у рэспубліцы шмат, якіх дзяржава падманула з гэтай самай мэтавай пазыкай. Мы хочам ведаць праўду: кампенсуюць нам сродкі ці не?

**Валянціна Гайдадзеева**, пенсіянерка, г. Мінск.

— Народ павінен ведаць праўду, якой бы горкай яна ні была. Грошай, сапраўды, не хапае, каб разлічыцца са шматлікімі ўкладчыкамі, якіх у рэспубліцы многія мільёны. Дарэчы, у выніку інфляцыі і я асабіста, і мае родныя, блізкія страцілі тыя ўклады, якія трымалі ў Ашчадным банку. Гэта агульная бяда. Магчыма, у будучым будзе створаны нейкі спецыяльны фонд па кампенсацыі абясцэненых укладаў. Што датычыцца трымальнікаў так званых мэтавых аблігацый, то з гэтым пытаннем кампетэнтныя органы разбяруцца, і ўсё будзе вырашана ў адпаведнасці з законам.

— Я працую памочніцай выхавальніцы дзіцячага садка. Мала таго што невялікая зарплата, дык яшчэ і водпуск складае 15 дзён.

**Наталля Пастарнак**, г. Вілейка.

— Я асабіста за тое, каб павялічыць працягласць водпуску такім катэгорыям работнікаў. Гэта пытанне будзе разглядацца ў Вярхоўным Савеце. Аднак, да вашага ведама, у большасці краін свету для рабочых працягласць штогадовага водпуску абмежавана 15 днямі.

— Маё пытанне звязана з пенсіённым забеспячэннем. Хіба гэта парадак, што пенсія ў шахцёра, які паўжыцця адпрацаваў пад зямлёй, такая ж, як і ў прыбіральшчыцы? Падобнай ураўнілаўкі не павінна быць.

**Леанід Перапечка**, г. Салігорск.

— Вы не першы, хто ўзнімае гэтае пытанне. Лічу, што закон аб пенсіённым забеспячэнні мае істотныя недапрацоўкі. Пенсію людзям трэба прызначаць згодна з іх працоўным укладам, у адпаведнасці з заработнай платай. Мяркую, што трэба ўносіць папраўкі ў дзеючае заканадаўства.

— Прабачце мне, Сямён Георгіевіч, але ў мяне не пытанне — крык душы. Я беларус, як прынята казаць, карэнны. Тут нарадзіўся, вучыўся ў школе, адсюль прызвалі ў армію. Служыў у розных месцах, апошнім часам — у Расіі. Прысягі іхняй не прыняў, а ў 1994 годзе дэмабілізаваўся і прыехаў у родную Беларусь. Пражываю пад Мінскам. Замест пашпарта выдалі чамусьці даведку, маўляў, не грамадзянін Беларусі. Некалькі разоў прадоўжвалі тую даведку, а нядаўна зусім адмовілі. Цяпер я наогул не маю ніякіх дакументаў. У чым тут мая віна? Хіба ў тым, што верай і праўдай служыў сваёй Айчыне?

**Валянцін Дыдышка**, Мінскі раён, пас. Мачулішчы.

— Не першы ўжо зварот па такой праблеме. І раней даводзілася разбірацца з падобнымі адносінамі. Я крайне абураны бяздумнасцю чыноўнікаў. Мяркую, у самы бліжэйшы час разбяромся з гэтай справай.

Былы вязень канцэнтрацыйнага лагера Андрэй **Трызна** з Мінска паскардзіўся на тое, што ніяк не можа дабіцца захавання льгот на аплату за карыстанне электраэнергіяй. Ветэран працы Мікалай **Лабко** (Мінск) таксама лічыць сваё права на атрыманне пенсіі беспадстаўна парушаным. Мінчанін Генадзь **Горын** аказаўся ўладальнікам злашчасных аблігацый беспрацэнтнай пазыкі 1990 года, разам з іншымі падманутымі людзьмі звярнуўся ў Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь, які, дарэчы, падтрымаў іх, аднак урад, тым не менш, не выконвае рашэння суда...

**Уладзімір Дворнік** з в. Рэдкавічы Любанскага раёна, Ніна **Філезіна** з Барысава, Аляксандра **Грынь** з Мінска, Віктар **Мурашка** з Карэліч, Валянціна **Чадовіч** з Чырвонай Слабады Салігорскага раёна, Зоя **Каменская** з Брэстчыны і многія іншыя чытачы нашай газеты паставілі перад С. Шарэцкім вельмі важныя пытанні. На іх Сямён Георгіевіч даў канкрэтныя дзелавыя адказы.

**Уладзімір ГОЙТАН,**
**Анатоль МЯСНІКОЎ.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**
**(Працяг будзе.)**

# АДЗІН ПРЭЗІДЭНТ УСІХ ЛЮДСКІХ ПРАБЛЕМ НЕ ВЫРАШЫЦЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

грамадзян шукаць дапамогі ў Прэзідэнта рэспублікі. І многія падобныя пытанні, як сведчыць даведка, пасля ўмяшання самога Аляксандра Лукашэнкі і Адміністрацыі Прэзідэнта, вырашаліся станоўча.

Па пытаннях працы, пенсіённага забеспячэння, сацыяльнай абароны паступіла 4539 заяў (15,9 працэнта). Часцей за ўсё грамадзяне звяртаюцца з просьбай аб працаўладкаванні, са скаргамі на звальненне ў сувязі са скарачэннем штатаў, несвоечасовую выплату пенсій і зарплаты, выказваюць прэтэнзіі да работы органаў сацыяльнага забеспячэння, падкрэсліваюць сацыяльную неабароненасць маламаёмных слаёў насельніцтва. Пенсіянеры крытыкуюць ураўняльны механізм налічэння пенсіі, пры якім яе памер практычна не залежыць ад працоўнага стажу, зместу і характару працы.

Улічваючы прапановы і просьбы грамадзян, Прэзідэнт рэспублікі пастаянна ўдзяляе ўвагу праблеме сацыяльнай абароны насельніцтва. У адпаведнасці з указамі Прэзідэнта выдзелены грашовыя субсідыі маламаёмным сем'ям па аплаце жыллёва-камунальных паслуг. Жанчынам, якія выхоўваюць траіх і больш дзяцей, прадастаўлены дадатковы аплачваемы выхадны дзень у тыдзень. На месцах аказваецца матэрыяльная дапамога пенсіянерам, малазабяспечаным сем'ям.

Аб сваім цяжкім становішчы пішуць сельскія жыхары. Яны скардзяцца на затрымку зарплаты і грошай за здадзеную сельгаспрадукцыю, з трывогай пішуць аб закрыцці на вёсцы школ, клубаў, бібліятэк, бальніц, паведамляюць аб разбурэнні ў многіх населеных пунктах тэлефонных ліній і ліній радыёфікацыі.

У сваіх зваротах жыхары рэспублікі шмат нараканняў выказваюць у адрас органаў аховы здароўя. Скаргі паступаюць ад інвалідаў і хранічна хворых у сувязі з нездавальняючым забеспячэннем медпрэпаратамі, адсутнасцю лякарстваў у дзяржаўных аптэках, што пазбаўляе хворых магчымасці набыць іх па льготных рэцэптах. У кожным пятым звароце па пытаннях аховы здароўя змяшчаецца просьба аб садзейнічанні ў шпіталізацыі, накіраванні на лячэнне ў спецыялізаваную клініку ці за мяжу.

Паток зваротаў у Адміністрацыю Прэзідэнта выклікала нездавальняючая дзейнасць шэрага інвестыцыйных фондаў, у прыватнасці, Першага рэспубліканскага інвестфонду, таварыстваў з абмежаванай адказнасцю «Тэхінпром», «Альтынг», «Мыза», «Новая генерацыя». Па заявах укладчыкаў гэтых і некаторых іншых фондаў праваахоўнымі органамі ўзбуджана 16 крымінальных спраў, вядзецца расследаванне.

Больш за 6 тысяч чалавек звярнуліся ў Адміністрацыю Прэзідэнта па праблемах забеспячэння законнасці і правапарадку. Жыхары рэспублікі занепакоены ростам злачыннасці, падвяргаюць рэзкай крытыцы дзейнасць праваахоўных органаў па раскрыццю злачынстваў, выкрыццю і пакаранню вінаватых, патрабуюць навядзення грамадскага парадку ў населеных пунктах.

Працягваюць паступаць скаргі на рашэнні судоў і органаў пракуратуры па канкрэтных крымінальных і грамадзянскіх справах, на валакіту пры разглядзе заяў грамадзян, невыкананне судовых рашэнняў.

Нямала зваротаў абумоўлена рознымі парушэннямі і злоўжываннямі з боку службовых асоб. У сваіх пісьмах і вусных скаргах грамадзяне паведамляюць, што некаторыя гаспадарчыя кіраўнікі беспакарана выкарыстоўваюць сваё службовае становішча ў асабістых мэтах, дапускаюць парушэнні ў фінансава-гаспадарчай дзейнасці, не прымаюць меры па паляпшэнню эканамічнага становішча працоўных калектываў.

Як паказвае аналіз, адной з прычын звароту грамадзян у Адміністрацыю Прэзідэнта з'яўляюцца недахопы ў рабоце многіх прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, калгасаў і саўгасаў, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, шэрага міністэрстваў і іншых цэнтральных органаў кіравання па разгляду заяў і скаргаў, што паступаюць ад насельніцтва, ліквідацыі прычын, якія іх выклікаюць. І толькі пасля ўмяшання Адміністрацыі Прэзідэнта многія надзённыя праблемы грамадзян вырашаліся станоўча.

**БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
**№ 60**
**АБ НАЗНАЧЭННІ Г. С. НАРКЕВІЧА НАМЕСНІКАМ СТАРШЫНІ КАМІТЭТА ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

Назначыць палкоўніка Наркевіча Генадзя Сямёнавіча намеснікам Старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, вызваліўшы яго ад пасады начальніка ўпраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь па Магілёўскай вобласці.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

8 лютага 1996 г., г. Мінск.

## ПАРТЫЗАНЫ СУСТРЭЛІСЯ Ў МАСКВЕ

Учора ў Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі ўручаны знакі «Партызан Беларусі» расіянам — былым удзельнікам партызанскага руху ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Удзельнікаў сустрэчы цёпла вітаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Расійскай Федэрацыі В. Даніленка.

Ветэраны падзякавалі за ўвагу і папрасілі перадаць падзяку за памяць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку.

**А. ГАРАГЛЯД.**

# БЕЛАРУСЬ ХАРЧОВАЯ,

## або Смачна есці ўсім, хто мае грошы

**Як вядома, палітыкі з'яўляюцца і знікаюць, а есці хочацца заўсёды. Ці не таму найбольшай папулярнасцю карыстаюцца менавіта тыя з палітычных дзеячаў, якія абяцаюць усіх хутка і смачна накарміць. Звычайна яно так і бывае, толькі «ежа» гэтая ў пераважнай большасці складаецца з чарговых заклікаў, выканання якіх грамадства чакае і па сённяшні дзень. Атрымаўшы пажытак «духоўны», пра надзённы кавалак хлеба і каўбасы людзі павінны клапаціцца самі. Што з жабрацкай зарплатай, як вядома, большасці з насельніцтва вельмі і вельмі праблематычна. Памятаеце, як абураліся, калі ў магазінах толькі-толькі пачалі розніцца цэны, а цяпер звыкліся і шукаем дзе танней. Па гэтай прычыне нейкі час «чаўнакі» існавалі нават у межах адной вобласці. Зараз гэта амаль немагчыма з-за таго, што цэны ў розных рэгіёнах не вельмі адрозніваюцца. І тым не менш — каму дзеля задавальнення цікаўнасці, каму як арыентацыю, дзе што можна набыць танней, — прапаноўваем чытачам параўнальныя звесткі на некаторыя прадукты харчавання ў розных гарадах Беларусі.**

### НА БАЗАРЫ ЦЭНЫ «ЗАМЕРЛІ»... ДА ВЯСНЫ?

Рознічныя цэны на харчовыя тавары на Камароўскім рынку г. Мінска на 09.02.96 г. (тыс. руб.):

***Мяса, птушка (кг):***
*свініна — 28—65*
*цяляціна — 26—55*
*ялавічына — 20—50*
*бараніна — 28-60*
*куры, гусі — 19—31.*
***Сала (кг):***
*свежае — 25—35*
*салёнае — 30—45.*
***Малочныя прадукты:***
*малако (л) — 4—9*
*тварог (кг) — 18—30*
*смятана (кг) — 22—24*
*масла (кг) — 40—45.*
***Яйкі (дзес.) — 15—18.***
***Мёд (кг) — 60—70.***
***Алей (л) — 17—18.***
***Крупы (кг):***
*рыс — 5,8—11*
*грэчка — 7—12.*
*Цукар (кг) 6,8—10.*
*Фасоля (кг) — 12—20.*
*Гарох (кг) — 6—12.*
***Агародніна (кг):***
*бульба — 4—6*
*капуста — 8—12*
*морква — 6—10*
*цыбуля рэпчатая — 5—8*
*цыбуля зялёная — 60—100*
*часнок свежы — 15—35*
*часнок марынаваны — 30—45*
*буракі — 5—6.*
***Садавіна (кг):***
*яблыкі — 10—35*
*бананы — 15—20*
*апельсіны — 13—16*
*мандарыны — 16—30.*
***Кветкі (шт.):***
*гваздзікі — 6—8*
*ружы — 8—25.*

За мінулы тыдзень цэны на рынку практычна не змяніліся. Нязначна (на 2 тыс. рублёў) патаннела цяляціна, затое на 10 тыс. знізілася цана на салёнае сала (для параўнання: на мінулым тыдні 1 кг яго каштаваў 30—55 тыс. руб.). А вось аматарам пахрумстаць морквачку позна вечарам пашанцавала, таму што яна патаннела за тыдзень на 5 тыс. рублёў. На 5 тыс. рублёў знізіўся і кошт свежага і марынаванага часнаку.

У канцы зімы «застылі» цэны на кветкі. Будзем чакаць вясны...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

### СТАРАЖОЎСКІ РЫНАК ЗАГАДАЎ ДОЎГА ЖЫЦЬ

З 13 лютага бягучага года дзейнасць старэйшага ў Мінску Старажоўскага рынку пераносіцца на рынак Гандлёвага дома «Ждановічы». Як высветліў карэспандэнт «Звязды» ў Мінгарвыканкоме, гэта рашэнне было прынята ў сувязі з поўным зносам канструкцый рынку.

Цяпер за жывымі парасятамі, птушкамі і рыбкамі аматарам хатніх жывёл прыйдзецца ехаць на самую ўскраіну горада. Не лішне будзе заўважыць, што ў мінулым годзе тэрыторыю Старажоўкі аблюбавалі для гандлю прадпрымальныя радыёаматары. На думку работніка гарвыканкома Галіны Кірсанавай, радыёрынак пераедзе ў тым жа напрамку.

**Сяргей КУРКАЧ.**

### ДЗЯРЖГАНДАЛЬ «АДВАДЖВАЕ» ЦЭНАМІ

Вось і бяжыць горацкі сярэднестатыстычны спажывец са сваёй вельмі палягчэлай «спажывецкай карзінай» міма магазіна ды на калгасны рынак, дзе спрытныя самадзейныя гандляры «рвуць» яго прама на часткі, прапануючы свініну па 25 тыс. рублёў за кг, а салёнае сала яшчэ танней. Не даражэй за магазінныя тут і малочныя прадукты. Зноў жа, яны больш свежыя, тлустыя і каларыйныя. Ці не таму з дзяржаўных прылаўкаў у апошні час мяса наогул знікла? За кілаграм жа масла ў дзяржаўным гандлі трэба аддаць сёння 46.400 рублёў, за пакет малака — 3400. Падаражэлі тварог і смятана. Цана варанай каўбасы перасягнула 30 тысяч рублёў. Абураюцца, але бяруць. А вось на замежны сервелат па цане 93 тыс. «зайчыкаў» наведвальнік глядзіць, як ліса на вінаград. Падаражэў на 400 рублёў і хлеб — галоўная «энергазберагальная» сіла чалавека.

Не лягчэй і сельскаму пакупніку. За пакет малака патомная даярка вымушана вылажыць 3600 рублёў замест учарашніх 2900. Смятана падаражэла на 1100, а масла — на 3200 рублёў, крышачку не дацягнуўшы да 50 тысяч за кілаграм. Дзякуй, што не бяруць «лішняга» з хлебароба за хлеб — цана яго на ўзроўні гарадской.

Моцна прыцягваюць пакупнікоў фірменныя магазіны, у тым ліку і параўнальнай таннасцю ў іх прадуктаў. Скажам, пакет малака каштуе тут 2980 рублёў, а кілаграм масла — 41.400 рублёў. Нават прывазныя каўбасы крыху таннейшыя, чым у гарадскім і тым больш у сельскім магазінах.

Таму і бяжыць з пустой карзінкай пакупнік міма магазінаў дзяржгандлю на базар, а адтуль, ледзь ногі пераастаўляючы, нясе яе поўную. Запас бяды не чыніць.

**Міхаіл УЛАСЕНКА.**

### У ПАСТАВАХ НА КУХНЮ ІДУЦЬ ПРАЗ БАЗАР

У Паставах гаспадыням найлепш атаварвацца на рынку, дзе можна набыць прадукты і смачнейшыя, і таннейшыя.

Так, 1 кг смятаны абыдзецца тут у 15-16 тыс. руб. (у дзяржгандлі — 19.300 руб.), масла — 30—32 тыс. руб. (40 тыс. руб.), літр малака — 3000—3300 руб. (3700 руб.). Цэны на мяса таксама зусім даступныя: 1 кг свініны — 28—30 тыс. рублёў (нязначнае адрозненне ад магазіннай — 26.700 руб.), цяляціна — 25 тыс. руб. Затое яйкі набываць лепш у магазіне, каб зэканоміць пару тысяч рублёў. Вядро бульбы абыдзецца аматарам «другога хлеба» ў 15 тыс. рублёў. А вось буханка чорнага хлеба, калі яе набыць у магазіне, каштуе 2100 рублёў, белага — 3000—3200 рублёў. Цэны на каўбасы ў дзяржгандлі вагаюцца, у залежнасці ад гатунку, ад 30 да 44 тыс. рублёў. Ну а на дэсерт — рыначныя яблычкі па 8—10 тыс. рублёў за кг.

**Уладзімір ШЫК.**

### ГАСПАДЫНІ ВЫБІРАЮЦЬ ТАННАЕ І ЯКАСНАЕ

Любы чалавек у цвярозым розуме заўсёды выбера тое, што мае лепшую якасць і меншую цану. Для кожнай жа гаспадыні гэта наогул становіцца аксіёмай жыцця. Таму, думаецца, жанчынам з Мар'інай Горкі не прыходзіцца доўга думаць, дзе шукаць лепшы кавалак для сямейнага стала. Пуцяводнай зоркай тут з'яўляюцца цэны на прадукты харчавання ў мясцовым кааператыўным гандлі і на рынку.

Так, пакет малака ў магазіне абыдзецца сямейнаму бюджэту ў 3700 рублёў (разліўнога — 3500), а прыватнікі ўступяць за 3000—3300. Тварог 9-працэнтнай тлустасці ў дзяржгандлі «пацягне» на 13.700 за кілаграм, на рынку ж — 16.000 рублёў, смятана — адпаведна ў 22.100 і 18.000 рублёў. У той жа час сапраўдная гаспадыня пойдзе па яйкі ў краму, таму што там яны таннейшыя на 1,5—2 тысячы рублёў у параўнанні з цэнамі прыватнікаў. Гэтак жа і з салёным салам: можна выгадаць 2 тысячы на кілаграме, набыўшы яго ў кааператыўным гандлі. Затое свініну і ялавічыну ў Мар'інай Горцы толькі тут і знойдзеш, дарэчы, па цане 26—32 тысячы і 18—25 тысяч рублёў адпаведна. Кумпяк (зразумела, адзін кілаграм) абыдзецца ў 40 тысяч «зайцоў». Бульба ў магазіне даражэйшая на 1 тысячу супраць базарнай, дзе яна складае 2000 рублёў. Толькі ў кааператыўным гандлі можна набыць і буракі з морквай па цане 2600 і 4100 рублёў за кілаграм. Не купіш на рынку і марожаныя журавіны па 15 тысяч «зайцоў».

Як бачым, сёй-той выбар ёсць. Былі б толькі грошы, а куды пайсці — падкажа іх колькасць і ўласны густ.

**Аліна ГРЫШКЕВІЧ.**

### І НАКАРМІЦЬ, І ЦІКАЎНАСЦЬ ЗАДАВОЛІЦЬ

Так ужо атрымалася, што слова «рынак» для пераважнай большасці з нас атаясамліваецца не з тэрмінам палітычнай эканоміі, а з больш зразумелым і гасцінным — калгасным. Тут і неабходныя прадукты харчавання заўсёды можна было набыць, ды і патаргавацца з гандляром, простым селянінам з бліжэйшай вёскі, наконт цаны пры выпадку.

Напэўна, з тых, ужо далёкіх часоў і паходзіць наша любоў да наведвання гэтых месцаў або па неабходнасці, або проста з цікаўнасці.

Калі выпадзе каму наведаць рынак у Бярозе, рыхтуйцеся да таго, што свініна сустрэне вас тут па цане 24—30 тыс. рублёў за кілаграм, сала — 20—28 тыс., ялавічына — 23—25 тыс. Мёд «усміхнецца» цэннікам з лічбай 48 тысяч «зайцоў» за кілаграм. Калі ўзнікне жаданне наталіць смагу, рыхтуйце 10 тысяч рублёў — і трохлітровы слоік свежага малака ваш. «Сустрэча» з дзесяткам яек будзе каштаваць вам 10—12 тысяч, кілаграм тварагу — 12. Калі ёсць канкрэтная мэта набыць масла, нават не заходзьце ў краму, дзе яно каштуе 49 тысяч рублёў.

Той жа тавар на рынку вам прапануюць усяго за 35 тысяч вашых заробленых грошай. Літр алею будзе стаяць на вашай кухні, калі вы пакінеце на бярозаўскім рынку 16 тысяч рублёў. Што да яблыкаў на дарогу, дык — 10—12 тысяч — і частуйцеся!

**Людміла ГІЛЕВА.**

### ЕЖА МОЖА БЫЦЬ НЕ ТОЛЬКІ СМАЧНАЙ, АЛЕ І НЕБЯСПЕЧНАЙ!

Па інфармацыі, атрыманай у аддзеле гігіены Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, у мінулым годзе работнікамі санэпідслужбы сталіцы ажыццяўляўся нагляд за 4409 аб'ектамі і 2824 камерцыйнымі фірмамі. Імі праведзена 22.777 даследаванняў харчовых прадуктаў па паказчыках якасці і бяспекі, выканаты 37.084 даследаванні экспрэс-метадамі кантролю.

Вынікі даследаванняў паказалі, што ў 1992--1995 гадах якасць прадукцыі на асноўных прадпрыемствах горада заставалася стабільнай. Але ў 1995 г. назіралася пагаршэнне якасці прадукцыі па мікрабіялагічных паказчыках на трох прадпрыемствах харчовай прамысловасці: на мясакамбінаце павелічэнне працэнта нестандартных па бактэрыялагічных паказчыках прадуктаў з 3,8 працэнта ў 1994-м да 9,3 працэнта ў 1995 г., у каўбасным цэху райзаготканторы з 4,1 працэнта ў 1994 г. да 9,7 працэнта ў 1995 г., на рыбакомплексе з нуля да 13,3 працэнта.

Спецыялісты забракавалі 46.184 кг прадуктаў са скончаным тэрмінам захавання ці недабраякасных, у тым ліку 18.809 кг мяса і мясапрадуктаў, 1300 кг цукру і кандытарскіх вырабаў, 1155 кг прадуктаў дзіцячага харчавання, 1246 кг рыбы і рыбапрадуктаў, 6572 кг тлушчавых прадуктаў (алей, масла, маргарын).

Санэпідслужбай былі прыменены жорсткія санкцыі. На суму 866.668.000 рублёў былі аштрафаваны 4528 адказных асоб. У 1995 г. часова ці назаўсёды была прыпынена эксплуатацыя 720 аб'ектаў, закрыты і знесены 542 кіёскі.

І ўсё ж ажыццяўляць кантроль у поўным аб'ёме, на жаль, фізічна немагчыма, таму што здароўе мінчан знаходзіцца (увага!) у руках усяго 23 урачоў і 27 памочнікаў.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

### ЦЭНЫ ДЫКТУЮЦЬ ЗАТРАТЫ НА ВЫТВОРЧАСЦЬ

Згодна з данымі Камітэта цэн пры Міністэрстве эканомікі, дынаміка змянення мінімальных рознічных цэн на харчовыя тавары за першы тыдзень лютага (звесткі па магазінах рознічнага гандлю) сведчаць аб прадаўжэнні працэсу паэтапнага набліжэння цэн да рэальных затрат на вытворчасць і, у прыватнасці, аб яго завяршэнні ў шэрагу рэгіёнаў краіны.

Так, на хлеб за тыдзень рознічныя цэны былі павялічаны ў Гродзенскай і Мінскай абласцях, а таксама ў Мінску на 4,3—4,8 працэнта, у Магілёўскай вобласці — на 18,2 працэнта. На поўныя цэны, якія кампенсуюць студзеньскія адпускныя цэны на муку, выйшлі ў Гомельскай, Магілёўскай і Гродзенскай абласцях. Найбольш высокая доля некампенсаваных затрат на хлеб складвалася ў Мінску, дзе адпускныя цэны на жытнюю муку — адны з самых высокіх у краіне за кошт выкарыстання ў асноўным завезенага з іншых рэгіёнаў збожжа і вялікай долі аплаты за банкаўскія крэдыты ў сабекошце.

Адбываецца і паступовае павелічэнне кантрактных цэн на прывазную пшаніцу, у выніку чаго назіраецца павелічэнне рознічных цэн на батоны ў Брэсцкай і Гомельскай абласцях (8 і 11 працэнтаў) і на макаронныя вырабы ў Віцебскай вобласці (10,8 працэнта). Павелічэнне рознічных цэн на ялавічыну і каўбасныя вырабы адбылося ў Мінску (ад 2,7 да 10,2 працэнта) за кошт уключэння ў іх раней не кампенсаваных цэнамі затрат з-за павелічэння закупачных цэн на буйную рагатую жывёлу з 10 студзеня 1996 года на 11 працэнтаў. З мэтай набліжэння цэн да тых затрат, якія складваюцца на вытворчасці, у Мінску адбылося павелічэнне рознічных цэн на малако і малочнакіслыя прадукты (ад 2,7 працэнта да 10,2 працэнта ў залежнасці ад асартыменту).

Узраслі таксама рознічныя цэны на масла ў Віцебскай і Гомельскай абласцях (12 і 14,2 працэнта) і сыры цвёрдыя ў Мінскай вобласці (15,5 працэнта), што звязана з паступленнем у гандаль прадукцыі са сфарміраванымі ў студзені 1996 года адпускнымі цэнамі, узровень якіх значна павялічыўся ў сувязі з павелічэннем закупачных цэн на малако на 23,2 працэнта. Па іншых харчовых таварах за мінулы тыдзень назіраліся асобныя кан'юнктурныя змяненні цэн па прычыне змянення асартыменту рэалізуемай прадукцыі і дапродажам танных запасаў, якія паступілі ў гандаль больш як 2-3 месяцы назад.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**


## МОЖНА ВЫЙГРАЦЬ І КВАТЭРУ, І АЎТАМАБІЛЬ

***З мэтай прыцягнення дадатковых сродкаў для будаўніцтва жылля грамадзянам, якія карыстаюцца правам нечарговага і першачарговага яго атрымання, Мінскі гарвыканком сумесна з будаўніча-фінансавай кампаніяй «ЦЭНТРАБУД» з 15 лютага 1996 года праводзіць грашова-рэчавую латарэю «ТВАЁ ЖЫЛЛЁ».***

У першым розыгрышы, які пройдзе 29 красавіка бягучага года, будзе разыграна 220 000 прызоў на суму 58 мільярдаў рублёў. У іх ліку 60 кватэр у прэстыжных раёнах горада, 40 аўтамабіляў AUDI і VOLKSWAGEN, тавары народнага спажывання вядучых зарубежных фірмаў SIEMENS, PANASONIC, BOSCH, ARISTON і інш.

***У 1996 годзе прадугледжана правядзенне 5 тураў латарэі.***

Гарантам правядзення гэтай латарэі з'яўляецца гардырэкцыя Белбізнесбанка г. Мінска.

Грашовыя прызы носяць характар імгненнай латарэі. Розыгрыш кватэр, аўтамабіляў, тавараў народнага спажывання і суперпрыза ў адзін мільярд рублёў пройдзе 29 красавіка г.г. на другім паверсе Палаца спорту.

Удзельнікамі шоу-розыгрышу з'яўляюцца грамадзяне, якія набылі латарэйны білет з надпісам «Удзельнік шоу-розыгрышу».

Усе запрошаныя ўдзельнікі стануць уладальнікамі каштоўных прызоў: кватэр, аўтамабіляў і іншых, а адзін з іх атрымае суперпрыз — мільярд рублёў.

Той ці іншы каштоўны прыз вызначаецца метадам рулеткі на трох барабанах пры непасрэдным удзеле ўсіх удзельнікаў шоу-праграмы.

Такім чынам будуць разыграны кватэры, аўтамабілі, тавары народнага спажывання і галоўны суперпрыз у памеры аднаго мільярда рублёў. Асобы Рэспублікі Беларусь, якія сталі ўладальнікамі кватэр, але не маюць прапіскі ў г. Мінску, у адпаведнасці з рашэннем Мінгарвыканкома за № 781 ад 28 снежня 1995 года атрымліваюць кватэру ва ўласнасць і прапіску ў г. Мінску.

***Латарэйныя білеты будуць распаўсюджвацца праз гандлёвую сетку, кіёскі «Саюздруку», банкі, абменныя валютныя пункты і грамадскімі распаўсюджвальнікамі.***

Па ўзроўню арганізацыі, колькасці і каштоўнасці прызоў гэтая латарэя не мае сабе роўных у рэспубліцы і ў краінах СНД.

**Генадзь МАКСІМАЎ,**
**прэзідэнт будаўніча-фінансавай кампаніі «Цэнтрабуд».**

**«КАЛІ ТЫ АПОШНІ РАЗ БЫЛА Ў КІНО?» — спытаў мяне нядаўна знаёмы. Я задумалася... Здаецца, восенню. Тады, помню, ішоў дождж і мы з сябрам, выйшаўшы з кафэ, у якім сядзець ужо надакучыла, пашыбавалі ў кінатэатр насупраць. Ні назвы карціны, ні тым больш рэжысёра я не запомніла. Не тое што няўважліва глядзела на экран ці думала аб нечым іншым. Проста глядзець фактычна не было на што: банальны сюжэт, прыпраўлены дзвюма-трыма перастрэлкамі, плюс некалькі сцэн у ложку (абавязкова, вядома ж) ды яшчэ доўгія ногі і прыгожанькі тварык перспектыўнай кіназоркі — вось, здаецца, і ўвесь фільм. Хацелася кінуць усё і пайсці з залы, але, па-першае, шкада было грошай, што сябар аддаў за білеты, а па-другое, ішоў дождж, і трэба было яго перачакаць... Не ведаю, магчыма, гэтыя ж акалічнасці трымалі ў вялізнай зале, разлічанай ці не на тысячу чалавек, і астатніх гледачоў, якіх было крыху больш за паўсотні. Ва ўсякім разе, захопленых уражанняў, выходзячы з залы, я не чула. Акрамя хіба слоў аднаго падлетка, які, размахваючы рукамі, сказаў свайму сябру нешта накшталт: «Крута той таму даў!» А дзяўчына, па выгляду студэнтка, ціха, але з прыкрасцю сказала свайму спадарожніку: «Як такое можна глядзець?»**

*БАЛЮЧЫЯ КРОПЛІ КУЛЬТУРЫ*

# СЯДЗІ І не ГЛЯДЗІ,

## або Чаму ў кінатэатрах ідзе нізкапробнае кіно

У МЯНЕ Ж ДА ЧЫСТА ЧАЛАВЕЧАЙ ПРЫКРАСЦІ далучылася і чыста журналісцкая цікавасць. Чаму нам такое прапануюць глядзець? Хто за гэта адказвае? Чаму так здарылася, у рэшце рэшт? Вядома, самой, без размовы з кампетэнтнымі людзьмі, на гэтыя пытанні адказаць было немагчыма. Але, нават пахадзіўшы па розных інстанцыях, я высветліла не вельмі шмат. Занадта ўзаемазвязана сітуацыя, што склалася сёння ў нашым кінавідэапракаце, з тым, што адбываецца ў нашай дзяржаве, у грамадстве наогул. Але было б бязглуздзіцай звальваць усе праблемы адной асобна ўзятай галіны на тое, што робіцца, скажам, у эканоміцы дзяржавы. Таму, спадзяюся, гэты матэрыял хоць трохі прыўзніме заслону, даўшы адказы на пытанні пераборлівага гледача.

*КРЫХУ СТАТЫСТЫКІ. Паводле даных аддзела кінавідэамастацтва Міністэрства культуры, да 80 працэнтаў экраннага часу забіраюць мастацкія фільмы катэгорыі «Б» — так званай другараднай прадукцыі, прызначанай для маларазвітых краін. З 217 мастацкіх стужак, зарэгістраваных у Дзяржрэгістры ў 1994-м — пачатку 1995 года, 127 — вытворчасці ЗША. (Для параўнання: толькі 44 — краін СНД.) На дадзены момант сітуацыя аналагічная.*




Пытанне, якое ўзнікне ў кожнага, хто прачытае гэтыя лічбы, натуральнае: навошта нам столькі фільмаў катэгорыі «Б»? Чаму купляюць менавіта іх? Я звярнулася да намесніка дырэктара сталічнага прадпрыемства «Кінавідэапракат» Васіля Коктыша. Адказ быў, як кажуць, не просты, а вельмі просты: фільмы катэгорыі «Б» самыя танныя. А ў пракату зараз няма грошай купляць больш якаснае, а значыць, і больш дарагое кіно. Што і казаць, калі замест патрэбных для забеспячэння ўсіх мінскіх кінатэатраў 200 фільмаў «Кінавідэапракат» у мінулым годзе закупіў толькі 29. Астатнія куплялі камерцыйныя структуры і самі кінатэатры.

Сітуацыя ўскладняецца яшчэ і тым, што зараз адну і тую ж карціну ў розных кінатэатрах не ўбачыш: купляецца толькі адна копія (г. зн. толькі адна плёнка, якую кінатэатры «круцяць» па чарзе). Больш копій не купіш: адна каштуе дзесьці каля 1000 $. Ды і купляюцца не лепшыя, не чыстыя плёнкі, а тыя, якія былі прагнаны ў кінатэатрах Масквы і Пецярбурга 200—300 разоў (а тэрмін службы адной копіі — 500 сеансаў пракату). Так танней. Таму нярэдка да няякасці мастацкай далучаецца яшчэ і няякаснасць тэхнічная: на кадрах відаць «палосы», «дождж».

Расійскім калегам нашых пракатчыкаў значна лягчэй: яны самі купляюць фільмы на кінавідэарынках (мы пасля купляем у іх), у іх лепшая акупляльнасць фільмаў: плацяць яны за фільм тыя ж грошы (і яны, і мы — у расійскіх рублях), а білет у кіно ў нас каштуе сама больш 7 тысяч беларускіх рублёў, а ў іх — 7—10 тысяч рублёў расійскіх. Пры сённяшніх суадносінах нашых валют розніца відавочная. Раней плёнкі расійскіх пракатных фільмаў здавалі нашым пракатчыкам у арэнду, на пэўны адрэзак часу. 45 працэнтаў ад прыбытку ішло ўладальнікам фільмаў, астатнія сродкі — нам. Зараз такое не практыкуецца, беларускі пракат вымушаны набываць фільмы ва ўласнасць.

«Дзякуй» за гэта трэба сказаць родненькай падатковай інспекцыі, якая знайшла датаваны 1992 годам падатак «на прыбыткі замежных юрыдычных асоб, не звязаных з дзейнасцю Беларусі». Карацей, пад гэты падатак падпадаюць усе фільмы, якія не належаць нашым пракатчыкам. Узятыя ў арэнду таксама. Сваіх сродкаў на падатак у нас няма, застаецца толькі аддаваць уласнікам фільмаў не 45 належных працэнтаў, а 40... А які ўласнік згодзіцца здаваць фільм у арэнду на такіх умовах? Каму гэта трэба: ім ці нам? Вось і прыходзіцца станавіцца ўласнікамі самім, выкройваючы што-кольвечы з і без таго мізэрных сродкаў... Глядзіш, не што лепш, а што танней. Тым больш атрымліваецца, што амерыканскія фільмы каштуюць нават менш, чым карціны вытворчасці СНД, купляючы якія, пракат вельмі рызыкуе: заўтра гэты фільм могуць паказаць па тэлебачанні, і тады ўжо, вядома, ніхто яго глядзець не пойдзе...

КАЛІ Ў 1988 ГОДЗЕ РАСФАРМІРАВАЛІ ДЗЯРЖКІНО, кінапракат атрымаў найбольшую самастойнасць. Дзяржава фактычна перастала яго кантраляваць, але і грошы яму на набыццё кінавідэафільмаў даваць таксама перастала. Каб хоць неяк пратрымацца, пракатчыкі пайшлі адзіным тады, у канцы 80-х, шляхам: яны кінуліся купляць тое, чаго наш «савецікус высокамараліс» дагэтуль не бачыў: так званую «маліну» — эратычныя фільмы, фільмы, дзе многа крыві, боек... Спачатку сапраўды наш недасведчаны глядач хлынуў у кінатэатры. Хутка ажыятаж прайшоў: з'явіліся відэакасеты, якія вельмі ўдала канкурыравалі з кіназаламі. А дзяржава раптам успомніла пра «аблудную авечку» (маю на ўвазе кінапракат), праўда, толькі ў сэнсе кантролю.

Тры гады назад пры Міністэрстве культуры быў створаны Дзяржаўны рэгістр кінавідэафільмаў і кінавідэапраграм. (Кінавідэасетка, заўважу, па-ранейшаму застаецца ў падпарадкаванні мясцовых уладаў.) Дзяржрэгістр рэгіструе ўсе фільмы, якія паступаюць на тэрыторыю рэспублікі, выпісваючы рэгістрацыйнае пасведчанне. Без яго фільм «круціць» нельга... Можа, хоць гэта арганізацыя сочыць за мастацкай якасцю фільмаў? «Не, — адказаў мне яе начальнік Уладзімір Рошчын. — Наша задача — рэгістрацыя і класіфікацыя кінавідэапрадукцыі. Мы вызначаем, на якую ўзроставую групу той ці іншы фільм разлічаны». Карацей, за мастацкую якасць стужкі Дзяржрэгістр адказнасці фактычна не нясе. Ён можа толькі вызначыць якасць маральную (паставіць над назвай пэўную колькасць зорачак, абмежаваўшы тым самым узроставыя межы аўдыторыі, ці наогул не дапусціць фільм да паказу, прызнаўшы, што ён не адпавядае нацыянальным крытэрыям класіфікацыі). Не адпавядае крытэрыям — значыць утрымлівае адкрытую парнаграфію ці прапаганду насілля і жорсткасці. Такое здараецца рэдка: тыя, хто купляе фільмы, ведаюць, што іх чакае рэгістр.

ШТО Ж, МАСТАЦКАЙ ЯКАСЦІ рэгістр не вызначае. Але і з якасцю ідэйна-маральнай, відаць, таксама ўзнікаюць праблемы. Дзе тая мяжа, якая аддзеліць стужку з чатырма «зорачкамі» (г. зн. паказ у спецыяльных тэатрах эратычнага кіно, узрост — пасля 18), ад той, якая наогул класіфікацыі не падлягае і паказвацца не павінна? Так, ёсць крытэрыі, ёсць рэгістр. Але і ён не заўсёды своечасова прымае прынцыповыя рашэнні. Бо чым патлумачыць тое, што фільм «Чорная Эмануэль», які ў рэшце рэшт быў прызнаны парнаграфічным, амаль паўгода дэманстраваўся ў чатырох мінскіх кінатэатрах? Выходзіць, пакуль Дзяржрэгістр вырашаў, выдаваць пасведчанне ці не, усе, хто хацеў паглядзець скандальную стужку, паглядзелі яе без афіцыйнага дазволу (маю на ўвазе рэгістрацыйнае пасведчанне). Толькі пасля актыўнага ўмяшання Міністэрства культуры фільм быў зняты з паказу.

Яшчэ адзін нюанс: Дзяржрэгістр вызначае якасць ужо набытых фільмаў. Некаторыя пракатчыкі перад тым, як купіць тую ці іншую стужку, кансультуюцца ў спецыялістаў Дзяржрэгістра, але, упэўнена, гэта робяць не ўсе. І ці прыемна таму, хто заплаціў грошы за фільм, пачуць раптам ад супрацоўнікаў Дзяржрэгістра, што фільм гэты не рэкамендуецца дэманстраваць наогул? І ці не зробіць уладальнік стужкі ўсё магчымае, каб яна атрымала патрэбную класіфікацыю?

*КРЫХУ СТАТЫСТЫКІ. Акрамя сямі дзяржаўных арганізацый кінавідэапракату ў Беларусі існуе 19 прыватных фірмаў, якія купляюць кінавідэапрадукцыю. За мінулы год у Дзяржрэгістры былі зарэгістраваны 273 мастацкія кінастужкі. З іх класіфікацыю «не дапускаюцца дзеці да 16 гадоў» атрымаў 31 фільм, «не дапускаюцца дзеці да 18 гадоў» — 16 фільмаў.*

У планах — паездкі спецыялістаў Дзяржрэгістра разам з пракатчыкамі на кінарынак, каб адразу рэкамендаваць апошнім, што купляць, а што — не.

*КРЫХУ СТАТЫСТЫКІ. У 1986 г. на кожнага жыхара Мінска прыпадала 13 наведванняў кінатэатра ў год. Сёння — ледзь-ледзь больш за адно.*

МЯНЕ ЗДЗІВІЛА І НЕПРЫЕМНА ЎРАЗІЛА ТОЕ, што ўсе, да каго я звярталася, тлумачылі панаванне нізкаякаснага кіно не толькі яго таннасцю, але яшчэ і попытам гледачоў. Маўляў, гледачы на такія фільмы ідуць. Што ж з намі здарылася?

Кінакрытык Ефрасіння Бондарава лічыць, што гледача сапсавала кіно, якое «круцілася» ў канцы 80-х. Глядач прывык (дакладней, яго прывучылі) да сцэн у ложку, да крыві і боек на экране. Адукаваны, інтэлігентны глядач проста расчараваўся, перастаў наведваць кінатэатры. З'явіўся новы тып — «глядач са жвачкай». Гэта падлетак, які ідзе ў кіно не думаць і аналізаваць, а, гледзячы на экран і жуючы гумку, набрацца вострых уражанняў. Менавіта такі глядач і «робіць касу». Калі ж і трапляецца які-небудзь высакаякасны мастацкі фільм — «глядач са жвачкай» на яго не ідзе, бо яму нецікава, глядач з густам не ідзе таксама: ён ад кінатэатра адвучаны. Фільмы проста правальваюцца. (Прыклады — «Незабудкі» Куліджанава, «Насця» Данелія.)

Сёння, каб выцягнуць чалавека з утульнага крэсла перад тэлевізарам, на якім яшчэ нярэдка стаіць невялікая скрынка з чароўнай назвай «відэамагнітафон», у халодную залу кінатэатра, трэба прапанаваць яму нешта такое... Але перад тым як прапаноўваць, трэба падрыхтаваць гледача да таго, што кіно — гэта зусім не тое самае, што тэлевізар, гэта — лепш, гэта — грандыёзней. (Скептыкам, якія мне тут будуць пярэчыць, раю паглядзець фільм Копалы «Апакаліпсіс сёння» па тэлевізары і ў кінатэатры і параўнаць уражанні.) Зараз, не лічачы нешматлікіх лекцый па кінамастацтву ў некаторых ВНУ, гледача ніхто не рыхтуе. Яшчэ адна балючая кропка кінапракату...

СКЛАДВАЕЦЦА ЎРАЖАННЕ, ШТО ВАКОЛ НАШАГА КІНАПРАКАТУ замкнулася нейкае зачараванае кола праблем, выйсця з якога не відаць. Але хаця б накірунак гэтага выйсця азначыўся, калі б цалкам была выканана Пастанова Савета Міністраў ад 29 верасня 1993 года «Аб дзяржаўнай падтрымцы нацыянальнай кінематаграфіі». З мэтай выканання гэтай пастановы Міністэрства культуры неаднаразова спрабавала стварыць Нацыянальную кінавідэакампанію, але адпаведнае рашэнне прынята так і не было з-за пазіцыі Міністэрства фінансаў і Міністэрства па кіраванню дзяржмаёмасцю.

Усё ж Міністэрства культуры спрабуе ратаваць становішча, вярнуўшы пракат пад апеку дзяржавы. Разам з Мінгарвыканкомам прапрацоўваецца магчымасць стварэння Рэспубліканскага кінааб'яднання на аснове сталічнага «Кінавідэапракату». На стварэнне такога аб'яднання ўскладаюцца вялікія надзеі: яно павінна будзе ўзяць пад кантроль рэпертуар, клапаціцца аб распаўсюджванні і захаванні фільма-копій, цэнтралізаваць набыццё сацыяльна значных кінавідэафільмаў... Але гэта пакуль што планы...

Міністэрства лічыць патрэбным самому набываць лепшыя новыя фільмы сусветнага кіно. Такое права дадзена, дарэчы, і Дзяржрэгістру. Цудоўна. Але... Сёлета адпаведныя выдаткі складуць многія мільярды рублёў. Ці знойдуцца такія грошы ў бюджэце 96-га — невядома.

ЗАСТАЕЦЦА ТОЛЬКІ СПАДЗЯВАЦЦА НА ЛЕПШАЕ. А тым нецярпліўцам, што хочуць паглядзець якаснае кіно на вялікім экране, раю наведаць клубы элітарнага кіно (а іх у сталіцы некалькі). Ці кінатэатр «Перамога» (ён адзіны прыняты ў Асацыяцыю еўрапейскага кіно, і там нярэдка бываюць добрыя еўрапейскія фільмы і рэтраспектыўныя паказы).

Будзем спадзявацца, што сітуацыя ў нашым кінапракаце зменіцца. Бо што ні кажы, добрае кіно — усё ж мастацтва. А сапраўднае мастацтва (даруйце за зацяганы афарызм, але тым не менш гэта так) — бессмяротнае.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**


## ШАНОЎНЫ ЧЫТАЧ!

**Адкрыта і да 10 сакавіка працягваецца падпіска на газету «Звязда» на другі квартал 1996 года.**

**Падпісная цана на нашу газету ўнесена ва ўсе экземпляры Каталога падпісных выданняў Беларусі, яна не змянілася і складае для індывідуальных падпісчыкаў:**

***на квартал — 40.800 руб.***

***на месяц — 13.600 руб.***

**Прасіце кіраўнікоў сваіх арганізацый выпісаць «Звязду» па безнаяўнаму разліку!**

**Па ведамаснай падпісцы ўсяго за 45.000 рублёў ваш калектыў будзе мець магчымасць сачыць за падзеямі ў рэспубліцы і свеце.**

**На ўсе пытанні падпіскі вам адкажуць у рэдакцыі па тэл. 68-28-77; 68-28-71, у аддзеле падпіскі рэспубліканскага дзяржаўнага аб'яднанага прадпрыемства «Мінская пошта» па тэл. 27-88-21; 27-55-38.**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі
Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА**

Колькасць камплектаў

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА**

| Кошт | падпіскі | ______ руб. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ______ руб. | | |

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

# МОЦНЫЯ ТАКСАМА ПЛАЧУЦЬ

## ПРА ТОЕ, ЯК У 38-М ХАЦЕЛІ «ЗАМЕСЦІ» І ПАНАМАРЭНКУ

Друкуемыя ніжэй дакументы дадаткова праліваюць святло на асаблівасці грамадска-палітычнага жыцця краіны ў 30-я гады. У іх умовах нават такія прыметныя асобы, як першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі П. К. Панамарэнка, не былі застрахаваны ад тэндэнцыйных да сябе адносінаў.

Гэта два лісты ў Маскву. Адзін належыць пяру самога Панамарэнкі, другі — сакратара ЦК КП(б)Б Н. Грэкавай і міністра ўнутраных спраў БССР Л. Цанавы.

Зварот партыйнага кіраўніка падрабязны, перапоўнены шэрагам падрабязнасцей асабістага характару. Даследаванне дазваляе сцвярджаць, што сітуацыя вакол галоўнай партыйнай асобы не нагадвала гамлетаўскую: быць ці не быць. Але першы сакратар, як сведчаць дакументы, не на жарт усхваляваўся. І было ад чаго: некаторыя супрацоўнікі НКУС збіралі на яго «кампрамат».

У сувязі з гэтым за Панцеляймонам Кандрацьевічам і яго роднымі, мы лічым, быў устаноўлены агентурны нагляд: у час яго камандзіровак у Маскву, на кватэры, дачы, у будынку ЦК. Справа пачала валіцца з рук, бо чалавек — не жалеза. І Панамарэнка ўзяўся за ліст да Г. М. Малянкова, з якім быў у нядрэнных адносінах.

Пісьмо доўгае, таму прыводзім яго са скарачэннямі.

Са звароту П. К. Панамарэнкі да Г. М. Малянкова

(студзень 1939 года)

«В ноябре (1938 г.) из Жлобина на мое имя поступило письмо Ципорина, исключенного в 1935 г. из партии за троцкистское выступление, имевшее место в 1927 г. и в дальнейшем скрытое от партии. В письме он просил затребовать и рассмотреть его дело, т. к. его обращения в КПК не дали результатов из-за ненахождения дела. Письмо было написано так, что можно было понять, что он мой знакомый.

Вскоре после написания им письма его арестовали и при обыске нашли копию письма ко мне, отпечатанную на машинке. Собственно провокация и началась уже с написания письма. Ципорин до ареста работал в Жлобинском райотделе НКВД, хотя в Жлобине было известно, что он исключен из ВКП(б) за троцкистское выступление. После ареста в Жлобин, а затем по месту заключения Ципорина в г. Гомель выезжает специальная комиссия из Минска во главе со Стояновским.

Работа с Ципориным ведется не вокруг его троцкистского выступления и характера его деятельности после ислючения, а вокруг его «знакомства» со мной с целью получения компрометирующего меня показания. Его крепко прижимают, вынуждают на дачу показаний обо мне. Озлобляют его, намекая, что он арестован после того, как только написал мне письмо. Ципорин начал давать показания, но так, чтобы показания его можно было использовать для моей компрометации, и в то же время, чтобы ему можно было легко их потом опровергнуть. Он показал: 1. Что я учился с ним на Кубанском рабфаке с 1926 по 1929 год. Во время его троцкистского выступления в конце 1927 года был в президиуме собрания или был на собрании. 2. Что я учился с ним в одном и том же институте в Москве. 3. Что я с ним на протяжении 1934—1936 г. имел 2-3 встречи, в том числе жил с ним в одной комнате 3 месяца.

Соль всего показания заключается в том, что, дескать, знал его троцкистские выступления и не разоблачил.

Если бы следователи не имели провокационных намерений, они сразу же бы прекратили свою предательскую разработку, так как устанавливалось быстро и точно, что я: 1. Учился на рабфаке с 1923 года по весну 1927 года с годичным перерывом в 1925 году, а так как он на рабфак поступил в середине 1926 года, то учились на разных курсах одновременно на рабфаке всего 5-6 месяцев, и что во время его троцкистского выступления осенью 1927 года я учился уже в Москве. 2. Что в Москве он учился в эксплуатационном институте (Бахметьевская, 15), а я в электромеханическом институте (Площадь Коммуны, дом № 1), и в Москве с ним столкнулся только один раз на трамвайной остановке, уже после окончания института. 3. Что я действительно жил 3 месяца в казарме, где жило 35—40 человек командиров, в том числе и Ципорин.

Дальше при допросах ему ставили вопросы о том, как я выглядел политически в те годы.

Этот Ципорин ничего не знал обо мне, ни плохого, ни хорошего, но продолжать надо было и он ответил: «Пономаренко тогда политикой не занимался, он был прекрасным математиком и ушел весь в эту науку».

Это Шлиферсон велел в протокол не записывать, так как по его мнению не могло меня компрометировать.

Характерно, что везде в протоколах перед фамилией Пономаренко уже не писалось слово товарищ ни полностью, ни сокращенно.

К этому нужно добавить то, что Ципорин, как установлено, имел в тюрьме специальные условия, раскормлен, получал специальный стол. После троцкистского выступления в 1927 г. сразу же был завербован сотрудником НКВД и работал таковым до ареста.

Конечно, показания Ципорина, даже в его первоначальном виде, представляют чепуху — мало ли кому с кем приходилось в одном учебном заведении учиться или сталкиваться... Однако далее предатели ничего не успели сделать, так как были разоблачены».

Аб тым, што стаяла за апошнім радком панамарэнкаўскага пісьма, расказваюць наступныя факты.

У канцы 1938 года замест Яжова наркомам НКУС назначаецца Л. Берыя. Апошні ці ад сябе, ці па падказцы Сталіна трохі лібералізуе палітыку органаў, знімае ці нават арыштоўвае асабліва скампраметаваўшых сябе следчых.

У такіх абставінах і з'яўляецца ў Беларусі ў якасці наркома дзяржбяспекі Л. Цанава, сябра і асабліва давераная асоба Берыі.

Безумоўна, ён не мог не ўлічыць змену курса пры разглядзе справы Панамарэнка, пачатай яшчэ стаўленікамі Яжова.

Такім чынам, магчыма, Панамарэнку самім лёсам была кінута «выратоўная саломінка», за якую ён ухапіўся з усёй моцы. А чалавек ён быў, як сведчаць дакументы, не ардынарны. Ад восені 1937 года да лета 1938 года ён прайшоў шлях ад інструктара ЦК ВКП(б) да першага сакратара ЦК КПБ. Не аднойчы ўступаў у дзелавыя спрэчкі з сакратарамі ЦК ВКП(б), у тым ліку са Сталіным. Апошні асабліва цаніў яго памяць на лічбы, прозвішчы, уменне не губляцца ў складаных абставінах. З імёнамі Сталіна, Малянкова было звязана і рашэнне аб пераходзе Панамарэнкі на працу ў адну з заходніх рэспублік СССР — Беларусь. Нечаканы арышт кіраўніка беларускай партарганізацыі мог не спадабацца галоўнаму гаспадару краіны і яго блізкаму акружэнню.

Прааналізаваўшы ўсё гэта, Цанава хутка павярнуў справу Панамарэнкаі ў адваротным накірунку, што і знайшло свой адбітак у пісьме на імя Берыі, падпісаным Н. Грэкавай і міністрам дзяржбяспекі БССР Л. Цанавай (студзень 1939 г.):

«В последних числах декабря 1938 года в НКВД Белоруссии поступили сведения о том, что в Гомельском областном управлении арестованный как троцкист Ципорин И. М., якобы дает провокационные показания на секретаря ЦК КП(б) Белоруссии товарища Пономаренко. Арестованный вместе с делом из областного управления был немедленно затребован и доставлен в Минск.

В средних числах января месяца был обнаружен протокол допроса Ципорина Иосифа Моисеевича по поводу его знакомства с товарищем Пономаренко.

Подозревая, что зам. нач. Облуправления Кашицин допросил арестованного Ципорина по поводу его знакомства с товарищем Пономаренко для провоцирования последнего, нами было по этому вопросу проведено расследование, в результате чего установлено: Ципорин И. М. был арестован Гомельским облуправлением еще 11 ноября и допрошен по существу своего обвинения, а также знакомства с товарищем Пономаренко через несколько дней.

В следственном деле отсутствует протокол допроса Ципорина.

Установлено, что бывш. начальник Гомельского облуправления Шлиферсон (ныне арестован) и его заместитель Кашицин по указанию Стояновского хотели использовать факт совместной учебы товарища Пономаренко с Ципориным еще в 1926 году в Кубанском рабфаке в целях его дискредитации. За провокаторскую работу, направленную на дискредитацию секретаря ЦК КП(б)Б товарища Пономаренко, нами Кашицин арестован.

О настоящем поставлен в известность товарищ Пономаренко, по поручению которого дело было доследовано и вышеизложенные провокационные действия Кашицина, Стояновского и др. подтвердились».

*Вось праз якія выпрабаванні прыйшлося прайсці П. К. Панамарэнку напярэдадні і на пачатку 1939 года. І ён не аднойчы вяртаўся да перажытага. Пры напісанні мемуараў ім быў нават выдзелены спецыяльны раздзел «Арышты ў Беларусі. Камісія. Цанава». На жаль, гэтая праца засталася незакончанай. Але падзеі таго часу не засталіся таямніцай, бо ў архіве захоўваюцца іх непадкупныя сведкі-дакументы.*

**Вячаслаў СЕЛЯМЕНЁЎ,**
**дырэктар Нацыянальнага архіва РБ.**
**Яўген БАРАНОЎСКІ,**
**вядучы навуковы супрацоўнік НАРБ.**




# Ёсць эфір!

Быў час, калі гэты дыяпазон радыёхваляў быў аддзелены ад нас, простых смяротных, заслонай службовай сакрэтнасці. Менавіта для сувязі спецыяльных службаў выкарыстоўваўся раней той дыяпазон, дзе сёння працуе незалежная радыёстанцыя FM «Радыё 101,2». Сёння ў Беларусі, як і ва ўсім свеце, гэтая частка радыёэфіру перададзена радыёслухачам.



«Радыё 101,2» — з ліку самых маладых станцый не толькі ў Беларусі, але і ў сумежных краінах. Там, у інфармацыйных агенцтвах блізкіх да нас дзяржаў мінскую радыёстанцыю ўжо ведаюць не менш за іншыя салідныя радыёфірмы. Сакрэт такой папулярнасці просты: галоўны арыенцір маладога творчага калектыву — якаснае пашырэнне інфармацыйнай прасторы. Да таго ж, тры чвэрці ўсяго эфірнага часу тут адводзяць музыцы, якая выдатна спалучаецца з насычанасцю інфармацыйных блокаў.

На працягу ўсяго вяшчання цяжка знайсці такія хвіліны, калі перадача ішла б без уліку таго, што яе слухаюць зацікаўленыя людзі ўсіх узростаў. Многія інфармацыйныя выпускі і аўтарскія праграмы — гэта адказы радыёжурналістаў на пісьмы і тэлефанаванні слухачоў, адказы на самыя хвалюючыя пытанні сучаснасці. Навіны БЕЛТА, БелаПАН, сусветная інфармацыя, перададзеная Бі-бі-сі, бізнесагляды, навіны Мінска — усё гэта гучыць у эфіры з васьмі раніцы да сямі вечара.



А яшчэ (пра гэта варта расказаць у асобным рэпартажы) тут рыхтуюць вельмі цікавыя музычныя аўтарскія праграмы. Па чарзе выходзяць у эфір перадачы пра французскую музыку, джазавая праграма, падборкі танцавальных мелодый, перадача для аматараў рока, навіны відэарынку, гумарыстычныя і літаратурныя перадачы.

Супрацоўніцтва з замежнымі інфармацыйнымі агенцтвамі «Радыё 101,2» вядзе на аснове ліцэнзійных пагадненняў, што адлюстроўвае сусветны агульнапрыняты ўзровень адносінаў. Прыемна, што на такі высокі ўзровень падняўся новы калектыў маладых радыёжурналістаў. Яны аднолькава бездакорна размаўляюць на англійскай, нямецкай, французскай, польскай мовах. Асабліва прыгожа і не сапсавана сучаснымі слоўнікамі гучыць у іх перадачах родная мова. Адзін з галоўных прынцыпаў «Радыё 101,2» — усе навіны і каментарыі падаваць на роднай мове.

У некалькіх маленькіх пакойчыках пад дахам старога двухпавярховага будынка месціцца малады калектыў. Удзень — бесперапынная праца адных на вяшчанні, уначы — такая ж няспынная праца другіх над заўтрашняй праграмай.

На жаль, прымаюць «Радыё 101,2» толькі жыхары Мінска і блізкіх да яго раёнаў. Але ж кажуць, што эфір бязмежны і гэта павінна стаць добрым пажаданнем для калектыву маладой радыёстанцыі.

**На здымках:** ля студыйнага мікрафона журналістка Ірына **Курапаткіна;** «Радыё 101,2» чуваць ад галоўнай антэны да прыгарадных раёнаў; за пультам апаратнай гукарэжысёр Зміцер **Васількоў** і журналістка Вольга **Бабак;** чарговую ліцэнзійную музычную праграму Бі-бі-сі рыхтуюць журналісты Вольга **Караткевіч** і Анатоль **Додзь.**

**Яўген ПЯСЕЦКІЙ.**
**(Фота аўтара.)**

### ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

На абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі «ПВ-МЕСЦА» робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

**СЯРОД МНОСТВА КРОПАК, ліній, каляровых плямак і чорна-белых рысак на аркушы паперы ніяк не магу знайсці адно толькі слова.**

**На карце Беларусі пачатку стагоддзя — Слуцк і Старобін, Семежава і Капыль. І Вызна яшчэ не ператварылася ў Чырвоную Слабаду, і Раманаўка не памяняла імя разам са знікненнем дынастыі...**

**Не бачна (ці можа гэта і ёсць тая былая Раманаўка?) вёскі, што на сучаснай мове мясцовых жыхароў і дарожных знакаў завецца проста: «Акцябр». Толькі больш чым праз паўстагоддзе з'явіцца на картах ісённяшні райцэнтр.**

**І — няма Ракіняў. Толькі лясы, лясы...**

**Так, зрэшты, і павінна было быць. Значыць, правільная карта! Старэнькія сяброўкі маёй бабулі (як кажуць, царства ім усім нябеснае) не раз успаміналі, што вёскі тут не было. Што з'явілася яна падчас калектывізацыі, а дагэтуль у лесе — «у Барэцкім», як казалі бабулькі — стаялі хутары. І зваўся адзін з іх Самахвалаўшчына, і жылі там мае продкі... (Здаецца мне, гэта амаль усё, што я ведаю пра свае карані.) Пазней на тым месцы будуць збірацца на свае кастры, марыць аб светлым будучым і ўсеагульным шчасці ракінскія піянеры, потым побач з узлескам выкапаюць кар'ер, запоўняць вадою, і доўга будзе мясцінка гэта нагадваць ракінцам пейзаж са знакамітай «Алёнушкі» Васняцова, а вялікія арэлі за прасёлкам — служыць месцам сустрэч для сяброўскіх кампаній новага ракінскага пакалення...**

**Летась мне давялося трапіць на тое месца. Возера змялела, напалову зарасло травой, арэлі паржавелі і сумна парыпваюць на ветры. Подых ліпеньскага ветру здаўся чамусьці халодным, а ўсё, што было тут раней, нагадала кадры са старога кінафільма, пасля якога ідзе зацямненне з цітрамі: «Прайшло столькі-та гадоў...»**

**Але вернемся ў Мінск. Інстытут гісторыі Акадэміі навук і вытворчая камерцыйная фірма «Арты-Фэкс» рыхтуюць зараз да выхаду ў свет «Вялікі гістарычны атлас Беларусі». Вышэйузгаданая карта, што выклікала гэтулькі ўспамінаў — яго, атласа, маленькая часцінка. Калі ўсё будзе добра (а толькі так і павінна быць), мы з вамі зможам убачыць гэтае пяцітомнае выданне ўжо ў бягучым годзе. Больш падрабязна, зрэшты, аб ім раскажа, мабыць, самы адказны і «ключавы» чалавек — галоўны рэдактар і прэзідэнт «Арты-Фэкса» Леў Казлоў.**

ВЯЛІКІ ГІСТАРЫЧНЫ АТЛАС БЕЛАРУСІ

# ДЗЕ ТЫЯ РАЧУЛКІ, ДЗЕ ТАЯ МЯЖА...

## *ХУТКА ЎБАЧЫЦЬ СВЕТ 5-ТОМНЫ «ВЯЛІКІ ГІСТАРЫЧНЫ АТЛАС БЕЛАРУСІ»*

**— Леў Раманавіч, можа, спачатку крыху аб сабе?**

— Нарадзіўся ў 38-м годзе ў невялікай вёсцы Ліцвінкі Кобрынскага павета Палескага ваяводства — гэта яшчэ пры Польшчы было. Скончыў Мінскі педінстытут, гісторыка-геаграфічны факультэт. Ад спалучэння гэтых дзвюх навук захапіўся яшчэ ў студэнцкія гады старажытнай картаграфіяй. Доўгі час займаўся выкладчыцкай дзейнасцю, але найбольш схіляўся да гісторыі картаграфіі Беларусі. У часы перабудовы быў запрошаны ў Акадэмію навук і ўзначаліў групу, якая стала працаваць над пяцітомным «Вялікім гістарычным атласам». Але хутка для навукі пачаліся часы далёка не лепшыя. Было аб'яўлена, што ніхто не будзе гэтую працу фінансаваць. Пачаліся скарачэнні. На шчасце, да таго часу ўжо былі закладзены асновы «Арты-Фэкса». (Дарэчы, «Арты-Фэкс» на лацінскай мове азначае «майстар сваёй справы», а лацінай, як вядома, шырока карысталіся ў старажытнай Беларусі; гэта не толькі назва, але і своеасаблівы дэвіз фірмы.) Гэта дазволіла прадоўжыць працу над унікальным атласам, падобнага да якога пакуль не мае ніводная з краін-суседзяў. Нешта падобнае, праўда, зараз рыхтуюць палякі.

**— Як я ўжо даведалася, ваша галоўная мэта — навуковая і асветніцкая...**

— Так, мы імкнёмся стварыць шырокую картаграфічную панараму гістарычнага шляху нашай радзімы.

**— Колькі ж гэта матэрыялаў трэба для гэтай панарамы!**

— Нельга паскардзіцца на іх адсутнасць. Каб паказаць вам зараз усё, што маем — дня можа не хапіць! Апрача новых арыгінальных карт, створаных нашымі лепшымі навукоўцамі (а іх прыцягнута да гэтай працы больш за пяцьдзесят), будзе выкарыстаны камплект старажытных картаграфічных твораў. Гэта пталамееўскія, арабскія старажытныя карты. І тыя, што склалі варагі, вікінгі... Чытач убачыць, напрыклад, карту Эль Ідрысі, дзе тэрыторыя Беларусі паўстае такой, якой яна была ў 1154 годзе. У XII стагоддзі ўпершыню пазначаны Мінск, Тураў, Дняпро, палескія балоты...

Гэта таксама і лепшыя карты, створаныя ў Еўропе: Меркатарам, Артэліем, польскімі картографамі XVII—XVIII стагоддзяў. Пертэс, Заноні, Чакі, іншыя так званыя каралеўскія картографы. Потым, напрыканцы XVIII стагоддзя, з'явяцца і першыя рускія здымкі. Напрыклад, у 3-і том атласа ўвойдуць 15—20 старажытных карт, апрача створаных намі.

Дарэчы, зірніце, вось карты з Ватыканскай бібліятэкі. Кавалачак, які паказвае нашу тэрыторыю...



**— Надпісы тут на такой мове, што нават цяжка ўявіць, што яны азначаюць. Гэта ж трэба прачытаць!**

— А нашы спецыялісты чытаюць гэта! Вось карта Алауса Магнуса 1524 года. Тут і Белая Русь пазначана. Між іншым, і Напалеон, калі ішоў сюды, меў карты, і вельмі падрабязныя. Яны ў нас пакуль не публікаваліся...

Галоўны «залаты арэшак» трэцяга тома — вялікая карта ў трохкіламетровым маштабе ўсёй Беларусі на сярэдзіну XVIII стагоддзя. На ёй будуць паказаны практычна ўсе населеныя пункты, што існавалі на той час. Нават дробныя вёсачкі, асобныя фальваркі. Некаторыя гарады пастараемся паказаць у плане — тое, што ўдалося здабыць.

Вось, напрыклад, самы старажытны выгляд Мінска на сярэдзіну XVIII стагоддзя. Зараз не верыцца, што вакол горада былі бастыёны. На другім беразе Свіслачы — так званыя Татарскія агароды. Гэта выгляд, калі ехаць з сённяшняга праспекта Машэрава. Угадваецца Верхні горад, тут яшчэ Ніжні горад быў... На аснове такіх графічных крыніц мы можам шмат чаго аднавіць. Трэці том — сярэдзіна XVIII стагоддзя — як бы наш базавы стан, мы ад яго будзем адыходзіць у глыб часоў і, наадварот, да нашых дзён.

**— Вы як бы захапілі «плацдарм» у тым часе... Дарэчы, чаму менавіта ў ім, а не ў ранейшым ці больш познім?**

— Справа ў тым, што на XVIII стагоддзе мы маем самы вялікі камплект крыніц. Падчас існавання тут Рэчы Паспалітай палякі дасканала ўсё апісвалі і картаграфавалі. І расійскі бок таксама пазней накіраваў многа чыноўнікаў, якія пераносілі на паперу ўсё, вярста за вярстой. Пачынаючы з часоў Кацярыны II, на ўсёй тэрыторыі Расійскай імперыі праводзілася Генеральнае межаванне, пад якое трапіла і значная частка беларускіх зямель. На жаль, межаванне не дайшло да захаду. Шэраг падзей (вайна з Напалеонам, паўстанне 1830—31 гадоў, падрыхтоўка да адмены прыгоннага права) перакрэслілі гэтыя намаганні і прывялі да таго, што Генеральнае межаванне страціла сваё значэнне. Тым не менш, захаваліся цэлыя тамы апісанняў і падрабязных здымкаў. Спалучэнне пісьмовых і картаграфічных крыніц — асноўная база многіх карт нашага атласа.

**— Якія бакі жыцця гэтыя карты адлюстроўваюць? Напрыклад, калі мы толькі што назіралі працэс іх стварэння, я бачыла цікавую рэч: у колерах вылучаны паселішчы шляхты, рамеснікаў, сялян, панскія маёнткі...**

— Будуць прадстаўлены, напрыклад, розныя рэлігійныя канфесіі Беларусі. І прамысловасць, і цікавыя забудовы, і тое, як зямля падзялялася. Дзяржаўная, ці каралеўская, ці тая, што цару належала, ці вольныя мясціны... Цікава, што мы звярнулі ўвагу не толькі на сацыяльныя з'явы, але і на паказ прыроды. Нават тэрмін такі ўвялі: гістарычная экалогія. Гэта значыць, што ў рэтраспекцыі мы «вяртаем» прыроднае асяроддзе, якое было сто, дзвесце гадоў таму, а калі ўдасца — нават трыста. Гэта тагачасныя лясы, балоты, назвы зніклых рэк. Вось, паглядзіце. Гэта карта зроблена ўжо ў 30-я гады нашага стагоддзя, даваенная. Яшчэ меліярацыі ніякай няма, і тут фактычна ўся гідраграфія, усе рэчкі, якія тады існавалі.

**— Я бачу, што рэк было нашмат больш! Некаторыя мясціны ўвогуле нагадваюць астраўкі, акружаныя рэчкамі.**

— Можна параўнаць з усім, што існавала яшчэ нават у XVII стагоддзі. Калі гідраграфія аднаўлена, наносяцца назвы пушчаў, лясная зона. Зараз ніхто не ведае, што была Кобрынская пушча ці Радашковіцкая. На старажытных картах гэта ўсё пазначана! Пяскі нейкія на Палессі мы раптам заўважылі. Хто пра іх ведаў? Там балоты, а былі тэрыторыі нібыта пустыня...

**— Леў Раманавіч, ці не тоіцца небяспекі ў выкарыстанні крыніц тых краін, улады якіх на працягу стагоддзяў дзялілі паміж сабой нашу этнічную тэрыторыю? Я маю на ўвазе Польшчу з Расіяй.**

— Аб'ектыўнасць крыніц, канешне, розная, і вядома, што кожны ліў ваду на свой млын. Як кажуць, праўда ляжыць недзе пасярэдзіне.

**— Яшчэ наконт праўды: вядома, што нават сярод гісторыкаў існуюць розныя погляды. Так хочацца, каб гісторыя нарэшце перастала «перапісвацца» і стала навукай дакладнай!**

— Фактычна наш праект неканцэптуальны. Гэта значыць, што мы не прытрымліваемся нейкай адной ідэі: дагадзіць левым ці правым, нацыяналістам ці інтэрнацыяналістам. Мы робім навуковую справу нейтральна. Няхай навукоўцы выказваюць свае погляды картаграфічна, на аснове сваіх даследаванняў, са спасылкамі на крыніцы. Кожны наш аўтар нясе маральную адказнасць перад чытачом, мы ж адказваем за атлас у цэлым. Таму свядома ўзялі нейтральны курс пры наяўнасці процілеглых поглядаў. Каб не было ўхілаў ні ў які бок. Няхай чытач сам робіць высновы, знаходзіць залатую сярэдзіну...

*Шмат чаго цікавага давялося мне пачуць тады ў нашай размове над старымі картамі. Вось, напрыклад, як рабілі хітрыя чыноўнікі ад статыстыкі, каб дакладна палічыць насельніцтва некаторых вёсак (бо феадалам нявыгадна было казаць, колькі ў іх душ, зямлі, якія заробкі: ад іх колькасці залежалі памеры падаткаў). Чыноўнікі дамаўляліся з цыганамі, якія вадзілі знакамітых дрэсіраваных смаргонскіх мядзведзяў. Пакуль уся вёска дзівілася на тое відовішча, яе жыхароў лёгка было палічыць, як кажуць, па галовах. Дарэчы, стваральнікі атласа ўсё ж маюць адну канцэпцыю — патрыятычную, але не цураюцца і паказу ўплываў іншых народаў, што мелі як станоўчыя, так і адмоўныя вынікі.*

... У XVI стагоддзі на карце аўстрыйскага пасла Герберштэйна, што праязджаў праз тагачасную Беларусь, наша радзіма выглядае суцэльным лесам. У атласе Артэлія, створаным напрыканцы XVI стагоддзя, ёсць словы: «Літва ці, як называюць мясцовыя жыхары, Белая Русь...» Ён піша яшчэ, што ўсе еўрапейскія вяльможы, ад англійскага караля да баварскага герцага, апраналіся ў гарнастаевыя мантыі палескага паходжання, лепшыя лясы для палявання знаходзіліся на Палессі, лепшая рыба вывозілася таксама адсюль. Гэта чатырыста гадоў таму.

Што засталося сёння ў прыродзе і ў нас?

...Бабулька ў невялікай вёсачцы на памежжы з Расіяй некалі на заўвагу мімаходзь (цікавай мне здалася тамтэйшая гаворка: словы беларускія вымаўляюцца мякка, як у адной з братніх моў) адказала з годнасцю: ніякага памежжа тут няма, у нас тут Беларусь, а вы там, на захадзе, усе палякі...

Хлопцы і дзяўчаты з Беласточчыны аднойчы сказалі паўжартам: ты, маўляў, гаворыш панашаму з рускім акцэнтам. Яны мелі на ўвазе маю беларускую мову.

Мінскі сусед, стары дзядуля, нядаўна зусім уразіў мяне сваёй высновай: «Не ведаю, адкуль ты, але ў цябе не мінскі акцэнт. Не беларускі. Літоўскі!»

У прынцыпе, я згодная быць кім заўгодна, хоць эскімоскай, але ні мяне не пераробіш, ні карані мае, ні радзіму, ні мову...

Але нешта зблыталася ў свеце! Адзін знаёмы ледзь змог растлумачыць адукаваным людзям на Захадзе, дзе знаходзіцца Беларусь (я на яго месцы сказала б, што ў Афрыцы: было б карысна паглядзець на вынік!)

Другі, добры сябар са студэнцкіх часоў, шчыра лічыць: «Беларусь не можа быць незалежнай краінай, гэта утопія рамантыкаў. Беларусаў цяжка лічыць асобным народам». Гэта кажа жыхар далёкага замежжа, але выказвае меркаванні сяго-таго з суайчыннікаў.

*Карпатлівая праца — рысачка за рысачкай наносіць на шматлікія лісты паперы з дакладнасцю да міліметра нашу мінуўшчыну. «Галоўнае, — лічыць Леў Раманавіч Казлоў, — паказаць тое, што мы страцілі. Куды падзеліся ўсе гэтыя лясы, рачулкі? Чаму першыя павысякалі, а другія спрамілі ці высушылі?. Дзе мы згубілі тую мяжу, якую нельга было пераходзіць, каб не парушыць баланс прыроды...»*

*Гэта не толькі аб прыродзе ці тэрыторыі. Калі адны рэчы беларусам не дазволяць вярнуць назад нашы спрадвечныя годнасць і здаровы сэнс (усё ж у гэтым нашаму народу не адмовіш), то іншыя — не вернеш ніколі. Бо рачулкі і крыніцы знікаюць не толькі на картах.*

*«Вялікі гістарычны атлас» ужо зараз выклікае цікавасць далёка за межамі Беларусі. На яго падпісаліся жыхары заходніх краін, у тым ліку вядомыя навукоўцы, грамадскія дзеячы з замежнай беларускай дыяспары. Адна з канадскіх фірмаў заключыла дагавор з выдаўцамі на распаўсюджванне атласа ў Канадзе, Амерыцы і Заходняй Еўропе. У нас на Беларусі гэта выданне ўжо заказана шматлікімі навуковымі бібліятэкамі, Нацыянальнай бібліятэкай Рэспублікі Беларусь, выкладчыкамі вядучых ВНУ, вядомымі пісьменнікамі. Як мяркуюць выдаўцы, «Вялікі гістарычны атлас» будзе карыстацца попытам і стане адным з найлепшых нацыянальных гістарычных выданняў у свеце. Што вельмі слушна. Бо свет, які трымаецца на нябачнай повязі часоў, краін, культур, пакаленняў і асобных людзей, не «адкрые» Беларусь, пакуль мы не адкрыем яе для сябе самі.*

**Таццяна СНІТКО.**




**На здымках:**

— вялікая карта, складзеная Хрыстафорам Радзівілам больш як 400 гадоў таму, натхняе стваральнікаў атласа;

— на пачатку XVII стагоддзя ракавы Чарнобыль быў звычайным горадам на карце;

— адказнай і карпатлівай працай заняты картографы.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

ТЭНДЭНЦЫІ

# ПРЭМ'ЕРЫ ЗЫХОДЗЯЦЬ ПА-РОЗНАМУ

У КРАІНАХ ЦЭНТРАЛЬНАЙ І УСХОДНЯЙ ЕЎРОПЫ, якія акружаюць Беларусь, змена ўрадаў — з'ява звыклая і частая. І гэта зусім апраўдана на пераломным этапе гісторыі, які перажывае цяпер гэта частка кантынента. Падчас цяжкіх эканамічных і палітычных рэформаў, якія вымагаюць ад грамадства немалых ахвяр, палітыкі хутка губляюць крэдыт даверу. Да таго ж сітуацыя патрабуе аператыўных манеўраў, хуткай змены тактыкі ва ўмовах, калі прамаруджванне і застой могуць дорага каштаваць грамадству.

Беларусь у гэтым сэнсе — выключэнне. Мінулы ўрад пад кіраўніцтвам Вячаслава Кебіча ўмудрыўся амаль без страт пераседзець усе эпохі — ад гарбачоўскай перабудовы да першых прэзідэнцкіх выбараў 1994 года. Не сказаць, што над беларускім Саветам Міністраў у тыя часы не дзьмулі трывожныя вятры. Баставалі рабочыя, мітынгавала апазіцыя, суседнія краіны стваралі і ажыццяўлялі праграмы эканамічных рэформаў... Першыя асобы ва ўрадах Расіі, Польшчы, Украіны, Літвы хутка змяняліся на гэтым фоне радыкальнай ломкі. Тым часам беларускія лідэры абяцалі захаваць рэспубліку як бастыён стабільнасці, выбраўшы за галоўны лозунг моманту — «Коней на пераправе не мяняюць».

Але твары на Алімпе выканаўчай улады — здаецца, адзінае, што заставалася ўсе гэтыя гады ў краіне нязменным. Усё астатняе — аб'ёмы вытворчасці, неплацяжы, беспрацоўе, жыццёвы ўзровень — марудна і пакутліва апускалі краіну ў яму эканамічнага крызісу. І падзенне гэтае было тым больш крыўдным, што суседнія краіны загадзя паказалі бесперспектыўнасць і згубнасць падобнага шляху. Але мы ішлі — пад кіраўніцтвам стабільнага ўрада, уся стабільнасць якога, падобна, заключалася ў непрыманні рынаачных рэформаў і ў адсутнасці новых ідэй.

Тым часам суседнія дзяржавы, у якіх пачаўся эканамічны пад'ём, па-ранейшаму скаланаюцца ад урадавых крызісаў. На мінулым тыдні адразу ў дзвюх краінах, якія мяжуюць з намі, — Польшчы і Літве адбыліся кардынальныя змены ў выканаўчай уладзе.

У Варшаве стаў вядомы новы састаў урада. Новым прэм'ер-міністрам, як вядома, тыдзень таму прызначаны Уладзімеж Цімашэвіч — спецыяліст у галіне міжнароднага права і сельскай гаспадаркі, дзеяч Саюза левых дэмакратаў. Дарэчы, Уладзімеж Цімашэвіч — палітык, якога польскія беларусы лічаць сваім. За яго галасавала Беласточчына і ў час выбараў у сейм, і на прэзідэнцкіх выбарах 1990 года. Пад Беластокам у пана Цімашэвіча — уласная гаспадарка.

Новы прэзідэнт Польшчы Аляксандр Квасьнеўскі так растлумачыў сваё рашэнне:

— Я выбраў Уладзімежа Цімашэвіча зыходзячы з яго парламенцкага і ўрадавага вопыту, а таксама таму, што яго падтрымае большасць у сейме.

Кандыдатуру Цімашэвіча прапанавала кааліцыя, якая мае большасць у парламенце, — Саюз левых дэмакратаў (СЛД) і Польская сялянская партыя (ПСП). Аднак, хоць новы прэм'ер і абавязаны сваім крэслам гэтым сілам, ён ужо прадэманстраваў тое, што мае намер у шэрагу выпадкаў прытрымлівацца ўласнай пазіцыі. У прыватнасці, Цімашэвіч не захацеў бачыць у новым урадзе былога міністра юстыцыі Ежы Яскерню, хоць той і карыстаецца падтрымкай СЛД. Акрамя таго, новы прэм'ер аб'явіў, што па шэрагу ключавых праблем (асабліва па актуальных для сённяшняй Польшчы пытаннях знешняй палітыкі і бяспекі) будзе кансультавацца з апазіцыяй.

Між тым, скандал з былым прэм'ерам — Юзэфам Алексы, абвінавачаным у шпіянажы на карысць Расіі, — дагэтуль не затухае. Вось вытрымка з інтэрв'ю былога прэзідэнта Польшчы Леха Валенсы варшаўскай «Gazecie wyborczej» (2 лютага г. г.) прысвечанага «шпіёнскай» праблеме:

**— Іншыя асобы таксама замешаны ў гэтай справе?**

— Гэтаму не варта здзіўляцца. Я зусім не адкрыў Амерыку, калі сказаў пра гэта.

**— Вы не згодны, каб гэтыя асобы сёння займалі ў дзяржаве высокія пасады?**

— Не згодзен. Агентаў могуць шантажыраваць, ім могуць пагражаць. Гэтыя людзі павінны разумець, што цяпер — іншая Польшча, іншы свет. І нават калі некага з іх прымушаюць, пераконваюць, што ён павінен стаць прэм'ерам, — ён на словах можа згадзіцца: «Так-так, хачу быць прэм'ерам», — але потым павінен адмовіцца.

**— Падобна, сярод палітыкаў СДРП у нас яшчэ чацвёра агентаў савецкай разведкі.**

— Каб толькі чацвёра! Але кожны канкрэтны выпадак тлумачыцца па-свойму: наіўнасць, глупства, ці звычайная здрада. Сустракаецца ўсё, у тым ліку і тыповая здрада, — тыповая здрада праз глупства.

Дарэчы, тое ж самае — ва ўсіх краінах былога савецкага блока. Вядома, гэта не азначае, што прэм'еры ва ўсіх гэтых краінах — агенты. Проста ўсюды існуе такая праблема. У нас можна штогод дзве-тры асобы адхіліць ад улады на гэтай падставе, як агентаў.

**— Ці азначае гэта, што тыя, хто мае на сумленні нешта нядобрае, будуць цяпер баяцца, ведаючы, што іх трымаюць пад прыцэлам спецслужбы?**

— Так, справа Алексы якраз і будзе мець вынікам тое, што многія з гэтых асоб зменяць тактыку і спецыяльна будуць імкнуцца заставацца ў цяні. Бо пераканаюцца, што інфармацыя захавалася, што раней ці пазней яны могуць праваліцца. І адно гэта — плюс усёй гэтай гісторыі.

Не менш гучны скандал вакол прэм'ер-міністра разгарэўся на пачатку года і ў Літве. Адольфас Шляжавічус, выкарыстаўшы службовую інфармацыю, за тры дні да банкруцтва банка, у якім ён трымаў свае зберажэнні, забраў грошы. Некалькі тыдняў пасля таго, як гісторыя ўсплыла наверх, Шляжавічус упарта адмаўляўся пакінуць пасаду. Але 7 лютага ўсё ж вымушаны быў гэта зрабіць — пасля таго, як пра неабходнасць адстаўкі сказаў сам прэзідэнт Альгірдас Бразаўскас.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# Служба кантролю мае пытанні да СП «Белсел»...

**Рэдакцыя атрымала ў сваё распараджэнне дакумент са Службы кантролю Прэзідэнта. Ён носіць назву «Акт праверкі асобных пытанняў фінансава-гаспадарчай дзейнасці СП «Белсел». Паколькі дакумент аб'ёмны (14 старонак), мы вырашылі прывесці некалькі вузлавых момантаў, якія, уласна, і выяўляюць сутнасць праблемы.**

**Аднак лепш па такіх складаных неадназначных пытаннях весці на старонках газеты не маналог, а дыялог. Такім чынам, свае тлумачэнні па ўсіх пазначаных вузлах дасць таксама генеральны дырэктар СП «Белсел» Уладзімір Гетманаў. Нам здаецца, дыялог — найбольш прыдатная ў гэтым выпадку рэч.**

**«Такім чынам, вытрымкі з «Акта...»**

З мэтай укаранення і эксплуатацыі сістэмы сотавай радыётэлефоннай сувязі ў Рэспубліцы Беларусь паміж Міністэрствам сувязі і інфарматыкі БССР (Грыцук І. М.) і карпарацыяй «Камстракт Інтэрнэшнл Інк.» (ЗША) 7 снежня 1990 года было падпісана пагадненне аб стварэнні сумеснага прадпрыемства. Пры гэтым «Камстракт Інтэрнэшнл Інк.» выступіла ад імя карпарацыі «Камстракт Інтэрнэшнл Беларусь Б. В.» (Нідэрланды), на якую ўскладаюцца функцыі партнёра-ўдзельніка. Прадугледжана роўнае ўкладанне кожным бокам па 50 працэнтаў капіталу дадзенага сумеснага прадпрыемства. Усе пастановы, мерапрыемствы і распараджэнні павінны прымацца Саветам дырэктараў, які складаецца з роўнай колькасці ад кожнага боку.

Для забеспячэння дзейнасці СП «Белсел» згодна з артыкулам 7 статута прадугледжвалася стварэнне статутнага фонду, які вызначаны ў памеры 1 млн. рублёў, у сумарным памеры ў выглядзе маёмасці і ў грашовай форме па 500 тыс. рублёў ад кожнага ўдзельніка, ці па 274725 долараў ЗША ў двухмесячны тэрмін. Згодна з п. 7.4 статута «Камстракт Інтэрнэшнл Беларусь Б. В.» абавязаны быў зрабіць пачатковы ўзнос у статутны фонд у памеры 500 тыс. рублёў у выглядзе маёмасці і ў грашовай форме 55 тыс. долараў ЗША (1:1,82). Не выканаўшы абавязацельстваў па фарміраванню статутнага фонду (кастрычнік 1991 года), на першым жа пасяджэнні Савета дырэктараў СП «Белсел» (пратакол № 1 ад 12—14 лістапада 1991 года) было прынята рашэнне аб павелічэнні памеру ўкладу ў статутны фонд да 900 тыс. рублёў з кожнага боку.

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь пералічыла 900 тыс. рублёў на рахунак СП «Белсел» у выглядзе ўкладу ў статутны фонд (плацежнае даручэнне № 711 ад 12.12.91 г.) Аднак СП «Белсел» у статутны фонд аднесена толькі 500 тыс. рублёў, а астатнія 400 тыс. рублёў выкарыстаны на бягучыя расходы. Праверкай дзяржаўнай падатковай інспекцыі Савецкага раёна г. Мінска ў 1994 годзе 400 тыс. рублёў былі вызначаны як пазарэалізацыйны даход прадпрыемства і па гэтай прычыне ў дзяржаўны бюджэт далічана 149,5 тыс. рублёў плацяжоў. Іншых парушэнняў падатковага заканадаўства не ўстаноўлена.

Замежны партнёр — «Камстракт Інтэрнэшнл Беларусь Б. В.» са спазненнем на 7 месяцаў (май 1992 года) унёс грашовы ўклад у Статут СП «Белсел» у памеры 55 тыс. долараў ЗША, ці 100,1 тыс. рублёў (мемарыяльны ордэр б/н ад 18 мая 1992 года на суму 2 тыс. долараў ЗША і мемарыяльны № 15 ад 12 чэрвеня 1992 года на суму 53 тыс. долараў ЗША). У лютым 1993 года на валютны рахунак СП «Белсел» паступіла 25 тыс. долараў ЗША, ці 45,5 тыс. рублёў, ад фірмы «Кэйбл энд Ваэйлес» (якая з'яўляецца на 14 кастрычніка 1992 года ўладальнікам 80 працэнтаў акцый фірмы «Камстракт Інтэрнэшнл Беларусь Б. В.») для набыцця аўтамабіля згодна з рашэннем 5-га пасяджэння Савета дырэктараў 2-3 снежня 1992 года. Аўтамабіль набыты 26 мая 1993 г. за 26.125 долараў ЗША.

У якасці грашовага ўкладу ў статутны фонд замежным удзельнікам былі ўнесены: — персанальны камп'ютэр (дзяржаўная мытная дэкларацыя (ДМД) 607/2800817 ад 7.12.92 г.) на суму 5128 долараў, ці 9,3 тыс. руб.; — праграмнае забеспячэнне да персанальнага камп'ютэра (ДМД 607/2800817 ад 7.12.92 г.) на суму 1231 долараў ЗША, ці 2,24 тыс. руб.; — аўтамабіль «Лендровер», атрыманы ад «Кэйбл энд Вайэлес Компані» (ДМД 607/3800098 ад 5.01.93 г.) 1977 года выпуску коштам 8366 долараў ЗША, ці 15,2 тысячы рублёў. Трэба адзначыць, што ў адпаведнасці з выпіскай гандлёвай палаты Амстэрдама «Кэйбл энд Вайэлес Компані» з'яўляецца адзіным 100-працэнтным акцыянерам кампаніі «Камстракт Інтэрнэшнл Беларусь Б. В.» з 13 снежня 1993 года. Месца яе знаходжання — Лондан, Злучанае Каралеўства.

Неабходна адзначыць, што ў сувязі з прынятым Саветам дырэктараў рашэннем аб павелічэнні статутнага фонду, а таксама зменай уладальніка (замежнага партнёра) гэтыя змены ў Знешэканомсувязь не прадстаўлены і на момант праверкі не ўнесены.

Такім чынам, грашовы ўклад у статутны фонд на 1 лютага 1993 года з беларускага боку склаў 500 тыс. рублёў, або 274725 долараў ЗША (100 працэнтаў), а з боку замежнага партнёра — 100,1 тыс. рублёў, або 55 тыс. долараў ЗША (20 працэнтаў), і неграшовы ўклад — 72,3 тыс. рублёў, або 39.725 долараў ЗША (14,5 працэнта).

У якасці недастаючага ўкладу ў фарміраванне статутнага фонду было прапанавана ацаніць распрацоўку Статута СП «Белсел» і канцэпцыі сотавай сувязі ў суме 180 тыс. долараў ЗША (пісьмо ад 15 ліпеня 1992 года). Згодна з актам прыёмкі нематэрыяльных актываў ад 28 снежня 1992 года СП «Белсел» апрыходавана навукова-інжынерная прадукцыя ў суме 327,6 тыс. рублёў (180 тыс. долараў x 1,82 руб.) і ўключана ў статутны фонд у якасці неграшовага ўкладу без адпаведнай экспертызы. Беларускай інжынерна-тэхналагічнай акадэміяй (БІТА) выдадзены фірме «Камстракт Інтэрнэшнл Беларусь Б. В.» сертыфікат 31 сакавіка 1993 года № 627, якім і пацверджана грашовая ацэнка навукова-інжынернай прадукцыі ў выглядзе канцэпцыі сотавай сувязі і Статута СП «Белсел». Аўдытарска-кансалтынгавай службай «Аўдыкс» 27 снежня 1994 года дадзена заключэнне аб фарміраванні статутнага капіталу СП «Белсел» па стану на 1 студзеня 1994 года ў суме 1 млн. рублёў.

Як паказала праверка, аўдытарская служба «Аўдыкс» без глыбокага вывучэння бухгалтарскіх дакументаў, неабходных актаў экспертызы неабгрунтавана выдала заключэнне аб поўным фарміраванні статутнага фонду СП «Белсел».

На падставе гэтага Дзяржзнешэканомсувяззю сумеснаму прадпрыемству «Белсел» выдадзена пасведчанне аб фактычным фарміраванні статутнага фонду ў памеры 1 млн. руб. у роўных долях абодвух партнёраў (рэгістрацыйны № 564 СП-139/91 ад 10 студзеня 1995 года)...»

«Такім чынам, з улікам сказанага статутны фонд сумеснага прадпрыемства «Белсел» склаў толькі 369.450 долараў ЗША (672,4 тыс. руб.) замест 549.450 долараў (1 млн. рублёў), у тым ліку доля замежнага партнёра — 94.725 долараў (172,4 тыс. рублёў), або 25,6 працэнта, і Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь — 274.725 долараў (500 тыс. рублёў), або 74,4 працэнта.

У сувязі з гэтым СП «Белсел» не мела права на льготы па падатку на прыбытак, а яго дзейнасць ва ўказаным перыядзе з'яўляецца незаконнай...»

«Сваю вытворчую дзейнасць сумеснае прадпрыемства «Белсел» пачало ў красавіку 1993 года. Агульная колькасць абанентаў сотавай радыётэлефоннай сувязі на 1.01.94 года склала 317, на 1.01.95 года — 1941, на 1.10.95 года — 3995 і на 1.12.95 года — 4334. Выдадзенай СП «Белсел» ліцэнзіяй прадугледжана, што тарыфы будуць зацвярджацца міністэрствам. Аднак гэтае патрабаванне сумесным прадпрыемствам не выконвалася. Тарыфы зацвярджаліся Саветам дырэктараў СП «Белсел» адвольна, прычым без усякіх разлікаў. Абаненты ўмоўна падзяляліся на 2 групы: валютныя і рублёвыя. Да першай адносіліся замежныя фірмы і бізнесмены, пасольствы, прадстаўніцтвы і сумесныя прадпрыемствы. Да другой групы — дзяржаўныя арганізацыі, Міністэрствы, ведамствы, прадпрыемствы. Саветам дырэктараў сумеснага прадпрыемства «Белсел» (пратакол 6-га пасяджэння ад 27-28.01.93 года) было вызначана, што тарыфы па «рублёвых» абанентах будуць ніжэйшыя за тарыфы па валютнай групе і колькасць іх будзе абмежавана 15 працэнтамі ад агульнай колькасці. Першапачатковыя тарыфы былі ўстаноўлены наступным чынам: кошт радыётэлефоннага апарата ў залежнасці ад тыпу — ад 950 да 1850 долараў ЗША, кошт падключэння да сотавай сеткі — 1000 долараў ЗША, штомесячная абанентная плата — 100 долараў ЗША, аплата за хвіліну мясцовых размоў — 0,5 долара ЗША. На 7-м пасяджэнні Савета дырэктараў ад 24.03.93 года было вырашана, што рублёвыя абаненты будуць уносіць штомесячную абанентную плату, эквівалентную 50 доларам ЗША, атрымліваючы пры гэтым 150 бясплатных хвілін эфірнага часу для ўваходных і выходных мясцовых размоў. Звыш прадугледжанага бясплатнага эфірнага часу аплата павінна брацца з разліку 0,25 долара ЗША за кожную хвіліну. Былым міністрам інфарматыкі І. М. Грыцуком 14.04.93 г. у лік 15 працэнтаў накіраваны спіс рублёвых абанентаў, які складаўся з тэлефонаў кіруючых работнікаў апарату Вярхоўнага Савета, апарату Савета Міністраў і міністраў у колькасці 50 абанентаў (спіс прыкладаецца), які прадугледжвае пяці абанентам толькі аплату кошту радыётэлефона і плату за міжнародныя размовы, астатнім абанентам акрамя аплаты радыётэлефона — яшчэ 50-працэнтную скідку на падключэнне да сеткі і месячную абанентную плату, а таксама 150 бясплатных хвілін размовы па мясцовай сетцы.

У далейшым такія рашэнні па прымяненню льгот прымаліся генеральным дырэктарам В. А. Гетманавым. Іх колькасць на 1.10.95 г. склала 86 абанентаў (спіс прыкладаецца). Агульная сума скідак па льготных абанентах склала на 1.09.95 г. 178,9 тыс. долараў ЗША. Фактычна паступіла платы ад гэтых абанентаў на 1.09.95 г. 260,7 тыс. долараў ЗША.

Прымяненне льготных тарыфаў, якія не забяспечваюць прыбытковую работу прадпрыемства, прывяло да таго, што СП «Белсел» страціла даходаў за 1993—95 гады ў суме звыш 2 млрд. рублёў (178000x11500)...»

«Асноўнымі прычынамі стратнасці прадпрыемства з'яўляюцца значны памер арэнднай платы абодвум установам СП «Белсел» за эксплуатацыю абсталявання і недасягненне запланаваных аб'ёмаў паслуг. Паміж СП «Белсел» і фірмай «Камстракт Інтэрнэшнл Беларусь БВ» 21 чэрвеня 1991 года заключаны дагавор аб арэндзе абсталявання. У састаў арандуемай уласнасці ўключаны радыёсродкі, антэны, базавыя станцыі на суму 2451,3 тыс. долараў ЗША. У дагаворы (арт. 4) прадугледжана, што арэндная плата будзе выплачвацца ў памеры 30 працэнтаў ад усіх валавых даходаў, што супярэчыць Закону «Аб арэндзе», прынятаму 12.12.90 г., дзе арт. 11 устанаўліваецца налічэнне арэнднай платы ў выглядзе працэнта ад кошту арандаванай маёмасці, ці як фіксаваная сума.

Беларускі ўдзельнік прадаставіў у арэнду будынак офіса (450 кв. м), збудаванні, лічбавыя каналы сувязі (150 каналаў). Пры гэтым ніякія разлікі пры вызначэнні арэнднай платы (у залежнасці ад кошту абсталявання, эксплуатуемых каналаў сувязі, колькасці абанентаў) не праводзіліся, а прадугледжаны ў дагаворах арэнды, гэтак жа, як і замежнаму партнёру, — па 30 працэнтаў кожнаму боку ў залежнасці ад выручкі. Сумы налічэння ўключаліся ў сабекошт.

Па гэтай прычыне ўдзельная вага арэнднай платы ў затратах па аказанню паслуг сотавай сувязі склала 47,7 працэнта. Пры гэтым не атрымліваючы прыбытку, абодва ўдзельнікі СП «Белсел» мелі значныя даходы.

На падставе дадатку 1 да пратакола ад 11-12.01.95 г. пасяджэння Савета дырэктараў арэндная плата з 1995 года не павінна перавышаць 1 млн. долараў ЗША ў год кожнага з бакоў. З пачатку арэнды абодвум бакам па стану на 1.10.95 года было пералічана 21.263,8 млн. рублёў арэнднай платы, у тым ліку заходняму партнёру — 1893,4 тыс. долараў ЗША (77,2 працэнта ад кошту прадастаўленага ў арэнду абсталявання).

У сувязі з тым, што дагаворы арэнды не адпавядаюць дзеючаму заканадаўству прапануецца заснавальнікам перагледзець і прывесці ў адпаведнасць з дзеючым заканадаўствам дагаворы арэнды і правесці пераразлік сумы арэнднай платы, што ўключаецца ў сабекошт прадукцыі. Пасля выканання гэтых умоў Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі правесці праверку правільнасці налічэння і ўплаты падаткаў...»

«Праверкай правільнасці аплаты камандзіровачных расходаў работнікам СП «Белсел» устаноўлены парушэнні патрабаванняў Пастановы Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь № 18 ад 22 лютага 1995 года. Пунктам 61 гэтай пастановы прадугледжана, што работнікі прадпрыемстваў, арганізацый, вінаватыя ў перарасходаванні замежнай валюты, выплачваюць у 2-разовым памеры кошт гэтай валюты.

Палажэннем прадугледжвалася выплата камандзіровачных расходаў, устаноўленых звыш нормаў Міністэрства фінансаў, у двайным памеры. Заснавальнікі і кіраўніцтва СП «Белсел», прымалі такія нормы, нягледзячы на тое, што прыбытку ў прадпрыемства няма, а значыць, і крыніцы для такіх даходаў. Выплаты звыш нормы камандзіровачных расходаў абкладалася разам з заработнай платай падаходным падаткам.

Прадпрыемства практыкуе частыя паездкі ў замежныя камандзіроўкі, не звязаныя з асноўнай вытворчай дзейнасцю. Так, напрыклад, камандзіраванне асобных супрацоўнікаў СП «Белсел» было звязана з навучаннем на курсах англійскай мовы (Л. І. Дарасевіч з 22 мая па 27 чэрвеня 1994 года, авансавая справаздача на суму 2787 долараў ЗША, С. А. Койкаў з 9 кастрычніка па 7 лістапада 1994 года, авансавая справаздача на суму 3373 долары)...»

*Уладзімір ГЕТМАНАЎ:*

## «НА ЎСЕ ПЫТАННІ МЫ МАЕМ АДКАЗЫ»

**Прадастаўляем магчымасць выказацца гендырэктару СП «Белсел». Ва Уладзіміра Гетманава, зразумела, свой погляд на праблему. Дарэчы, праверка прадпрыемства працягвалася 8 месяцаў.**

**— Уладзімір Андрэевіч, у «Акце праверкі...» можна выдзеліць тры асноўныя пытанні. Усё астатняе ўяўляецца не вельмі значным. Першае: што вы можаце патлумачыць наконт стварэння статутнага фонду СП?**

— Перш за ўсё, я павінен зазначыць асноўнае: статутны фонд прадпрыемства быў сфарміраваны ў адпаведнасці з існуючым на той час заканадаўствам. Працэдура фарміравання была захавана. Я, як генеральны дырэктар, за свае словы адказваю.

Чаму гэтае пытанне раптам узнікла праз 3 гады? Тут для мяне ёсць элемент загадкі. Нас правяралі восем месяцаў. Цяпер тут працуе падатковая інспекцыя. Дагэтуль «Белсел», канешне, таксама неаднойчы правяралі. Не было ніякіх сур'ёзных пытанняў. Але вось узніклі. Магчыма, мы сталі ахвярамі канкурэнтнай барацьбы, не ведаю. Статутны фонд — аснова асноў. У яго фарміраванні ўдзельнічалі многія міністэрствы і ведамствы.

**(Заканчэнне на 9-й стар.)**

# ПАГОНЯ — РАДАВЫ ГЕРБ АЛЯКСАНДРА НЕЎСКАГА?

***З павагай адносячыся да сучаснай дзяржаўнай сімволікі, мы прадастаўляем слова дасведчанаму знаўцу гісторыі нашай Айчыны — Міхасю Чарняўскаму. Вучоны ні з кім не спрачаецца, не займаецца пошукам палітычных аргументаў на карысць таго ці іншага варыянта сімволікі. Міхась Чарняўскі прыводзіць адметныя гістарычныя факты.***

**ПРАБЛЕМА паходжання Пагоні выклікае мноства спрэчак. І гэта натуральна. Па-першае, вытокі хаваюцца ў глыбокай старажытнасці, беднай на пісьмовыя сведчанні, тым больш вартымі даверу, і таму без навуковых дыскусій тут не абысціся. Па-другое, Пагоня з'яўляецца сімвалам нашай гістарычнай, а больш канкрэтна — дзяржаўніцкай памяці. Па гэтай прычыне яна, як і кожны падобны сімвал, з'яўляецца аб'ектам палітычных сімпатый або антыпатый. Тут даволі проста: адносіны да незалежнасці вызначаюць адносіны і да Пагоні.**

Наблізіцца да разгадкі тайны паходжання Пагоні дапамагае аналіз самых старажытных дакументальна засведчаных яе выяў.

Адзін з першых расійскіх гісторыкаў, В. Тацішчаў, які карыстаўся некаторымі пазней страчанымі пісьмовымі крыніцамі, сцвярджаў, што гербам Белай Русі спрадвеку быў коннік з мячом. Аднак самыя першыя падобныя выявы, вядомыя навукоўцам, паходзілі не са старажытных крывіцкіх зямель, а з Ноўгарада Вялікага, і знаходзіліся яны на пячатках Аляксандра Яраславіча Неўскага, які княжыў тут у 1236—1251 гадах. Пячаткі Неўскага былі двайныя — на адным баку традыцыйны для Масковіі вершнік з кап'ём, на другім вершнік трымаў узняты меч.

Чаму ў Неўскага з'явіўся дадатковы герб у выглядзе нашай Пагоні? Гэта можна растлумачыць наступным. Уступіўшы на княскі пасад Ноўгарада, Аляксандр павінен быў адстойваць яго інтарэсы ў змаганні з нямецкімі і шведскімі рыцарамі, якія да гэтага часу захапілі Прыбалтыку. Каб займець у такой справе саюзніка, малады наўгародскі валадар у 1239 годзе жэніцца з полацкай князёўнай. І, як вядома, пасля гэтага полацкія збройныя загоны ўдзельнічалі ва ўсіх важнейшых бітвах Неўскага. Вось у выніку гэтага шлюбу Аляксандр і мог прыдбаць сабе ў якасці своеасаблівага дадатку да пасагу і герб жонкі — полацкую (крывіцкую) Пагоню. Такое прысабечванне герба жонкі або маткі і выкарыстанне яго побач з уласным традыцыйным шырока вядомае ў феадальнай Еўропе. Успомнім хоць бы такі прыклад, як жаніцьба Івана III Васільевіча ў 1472 годзе на дачцэ апошняга валадара Візантыйскай імперыі, калі ў Маскву трапіў двухгаловы арол.

Гербавы знак Пагоні выкарыстоўвалі нароўні з выявай вершніка-кап'яносца і нашчадкі Аляксандра Неўскага — вялікія князі маскоўскія. І толькі ў пачатку XVI стагоддзя яна практычна знікае з геральдыкі нашага ўсходняга суседа, выцесненая двухгаловікам. Апошняе адбылося таму, што візантыйска-імператарскі «гербавы пасаг» па палітычным значэнні непараўнальна пераўзыходзіў полацка-княскі. Акрамя таго Пагоня ўжо даўно стала дзяржаўным сімвалам галоўнага антаганіста Масквы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага — нашага сумеснага з летувісамі гаспадарства.

Пакуль што найстаражытнейшыя выявы Пагоні, знойдзеныя на крывіцкіх (усходнебеларускіх) землях, належалі смаленскаму князю Аляксандру Глебавічу і адносяцца да апошніх дзесяцігоддзяў XIII стагоддзя. Першая ж Пагоня з Полаччыны, выяўленая даследчыкамі, датуецца прыкладна 1330 годам. Пячаткай з такім знакам тут карыстаўся Глеб Гедымінавіч. Пра гэту асобу мы маем вельмі мала звестак. Каб трапіць на полацкі пасад, ён, хутчэй за ўсё, мусіў ажаніцца з мясцовай князёўнай, таму і Пагоня яго магла быць «пасажнай». Характэрны прыклад — з'яўленне герба Пагоні ў карыстанні нашага вялікага князя Аляксандра Альгерда. З'яўляючыся сынам Гедыміна, радавым знакам якога былі Калоны, Альгерд у 1318 годзе ажаніўся на дачцэ віцебскага князя, які не меў нашчадкаў па мужчынскай лініі. Такім чынам ён наследаваў вотчыну свайго цесця і яго герб. Знамянальна, што ўсе наступныя шматлікія пакаленні Альгердавічаў карысталіся Пагоняй як радавым знакам. Гэта зноў жа як у выпадку з Аляксандрам Неўскім.

Калі ў канцы XIV стагоддзя паўстала пытанне аб дынастычнай уніі паміж беларуска-летувіскай дзяржавай і польскім каралеўствам, надзённым стала мець герб не толькі правячай дынастыі, але і самога гаспадарства. Да гэтага гедымінавы Калоны не падыходзілі, бо стылёва вельмі адрозніваліся ад польскага белага арла і мелі ў дадатак язычніцкі радавод, а нашаму краю трэба было засведчыць Еўропе сваю хрысціянскасць. Таму, мабыць, і спыніліся на белай выяве рыцара-вершніка з мячом, якая выводзілася ад хрысціянскага святога.

Такім чынам, месцазнаходжанне і час існавання самых першых выяў Пагоні сведчаць, што яе вытокі былі не на летувіскіх землях, як беспадстаўна сцвярджаюць некаторыя, а ў крывіцкіх славянскіх княствах — Полацкім, Віцебскім і Смаленскім. На некаторыя ж суседнія землі яна трапляла хутчэй за ўсё шляхам шлюбных сувязей між княскімі радамі.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ,**
**кандыдат гістарычных навук.**



*Старажытнейшыя выявы Пагоні на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Пячаткі Аляксандра Неўскага. Сярэдзіна XIII стагоддзя.*

# «НА ЎСЕ ПЫТАННІ МЫ МАЕМ АДКАЗЫ»

***(Заканчэнне. Пачатак на 8-й стар.)***

І тады яны пацвярджалі правільнасць, законнасць гэтай працэдуры. У прыватнасці, магу назваць Мінзнешэканомсувязі, Мінсувязі, падатковую інспекцыю, Беларускую інжынерна-тэхналагічную акадэмію і іншых. Падкрэслю яшчэ раз: законнасць фарміравання статутнага фонду яны пацвярджалі. Заходні партнёр, жадаючы ўкараніцца на беларускім рынку, прыняў кампраміснае рашэнне замяніць навукова-тэхнічную прадукцыю грашовым укладам.

**— Паспрабуем высветліць наступнае: рублёвыя абаненты і незаконныя, на погляд кантралёраў, ільготы для іх. Як вы можаце пракаменціраваць гэты факт?**

— Па-першае, я патлумачу, што спіс рублёвых абанентаў, а таксама тарыфы для іх былі прыняты і ўзгоднены на вышэйшым узроўні. Зразумела, не толькі на ўзроўні міністра сувязі. Гэта адказныя асобы з тагачаснага кіраўніцтва рэспублікі.

Вярхоўны Савет, Савет Міністраў, міністэрствы і ведамствы — вось рублёвыя абаненты. Пагадзіцеся, вышэйшыя асобы краіны павінны мець сучасную тэлефонную сувязь. Савет дырэктараў прадпрыемства прыняў адпаведнае рашэнне. Дарэчы, я магу паказаць спіс гэтых абанентаў. (Паказвае. Спіс адкрываюць тагачасныя вышэйшыя асобы рэспублікі і далей намеснікі, міністры і г. д.).

Служба кантролю прапанавала адмяніць гэтыя льготы. У бліжэйшы час, магу адзначыць, па гэтым пытанні будзе прынята адпаведнае рашэнне. Зразумела, мы яго выканаем.

**— Пойдзем далей. Пагаворым аб камандзіровачных расходах.**

— Я спачатку ўдакладніў бы, хто мы ёсць. СП «Белсел» — прадпрыемства сумеснае, са змешанай формай уласнасці. 50 працэнтаў капіталу належыць беларускаму боку, 50 — англічанам. «Белсел» — камерцыйная структура з усімі адсюль вынікамі. Натуральна, у нас усё крыху не так, як на дзяржаўным прадпрыемстве. У нас недзяржаўная форма ўласнасці. У сувязі з гэтым нормы камандзіровачных расходаў мы маем права перавышаць удвая. Нічога процізаконнага ў гэтым няма. Мы накіроўвалі сваіх супрацоўнікаў для вучобы за мяжу. Плацілі з разліку на дзень каля 20—25 долараў. Супрацоўнікі жылі ў студэнцкіх інтэрнатах, у кошт пражывання не ўваходзіла нават харчаванне. А 20—25 долараў, я вам скажу, на гэтыя грошы хоць бы два разы паесці, Англія, Ірландыя, Швецыя, Нарвегія — краіны дарагія ва ўсіх адносінах. Людзі прыязджалі і гаварылі: у наступны раз не паедзем. І ехалі яны не на дзень-два, а на 5-6 тыдняў. Можаце ўявіць.

Таму мы павялічылі норму сутачных да 40—50 долараў. І ўсё роўна нашы былі ў горшых умовах, чым рускія, украінцы, прыбалты. Я сёння гаварыў на калегіі: вось едзе кіраўнік, яго сустракаюць, яму гатэль з харчаваннем, грошы на кішэнныя расходы... А мае людзі бралі з сабою каўбасу, сала. Ведаеце, сорамна гэта.

Праўда, крыху памыліліся з падаходным падаткам. Але гэта выпраўлена. Ды і нейкай злачыннай задумкі не было, зразумела.

**— Уладзімір Андрэевіч, вось тут у «Акце...» гаворыцца аб супрацоўніках СП, якія ездзілі за мяжу вывучаць англійскую мову...**

— Ну, я не ведаю, што тут сказаць... Разумееце, мы сумеснае прадпрыемства. Нашы менеджэры павінны пастаянна сустракацца з партнёрамі. Натуральна, размаўляць сам-насам без перакладчыка, бо на іх ніякіх грошай не хопіць. І, вядома ж, не на рускай мове. Таму мы прынялі рашэнне: для больш хуткага і добрага вывучэння мовы пасылаць людзей за мяжу. Яны там жылі ў сем'ях эмігрантаў з Усходняй Еўропы, СССР, якія валодалі рускай мовай. Моўная практыка ішла літаральна па 12 гадзін у суткі. Пагадзіцеся, ніякія нашы курсы гэтага даць не могуць.

Вывучаць мову ездзілі двое чалавек. Яшчэ 10—12 былі за мяжой на вучобе. Гэта інжынеры, спецыялісты. Увогуле, калі будзе патрэба, а яна будзе, мы будзем працягваць такую практыку. Гэта неабходна. Так што, я лічу, гэта пытанне чыста суб'ектыўнае.

**— Арэндная плата?**

— Вы ведаеце, мы кіраваліся статусам сумеснага прадпрыемства пры налічэнні арэнднай платы. Спачатку гэта было 30 працэнтаў ад валавога даходу СП, але не вышэй чым 3 мільёны долараў у год. Потым сума была абмежавана адным мільёнам долараў. З яе 900 тысяч атрымлівае Мінская ГТС і 100 тысяч — Мінскае абласное тэхнічнае ўпраўленне сувязі. 500 тысяч долараў, дарэчы, атрымаў бюджэт. Па-мойму, гэта можна толькі вітаць.

Да таго ж дагаворы на арэнду на 1996 год будуць перагледжаны.

**— Крыху адхілімся ад спраў кантрольна-праверачных. Уладзімір Андрэевіч, колькі людзей забяспечвае работай прадпрыемства?**

— У нас у штаце зараз 120 чалавек. Павінен сказаць, больш за 100 — з вышэйшай адукацыяй. У нас працуюць высокакваліфікаваныя інжынеры, ёсць кандыдаты навук. Самі бачыце, узровень ёсць.

**— Што вы можаце сказаць аб перспектывах СП «Белсел»?**

— Зараз мы пакрылі сотавай сувяззю 27 працэнтаў тэрыторыі рэспублікі. У прынцыпе, ужо сёння гатовы давесці працэнт да 50. Усе абласныя гарады, а таксама такія, як Барысаў, Полацк, Наваполацк, Ліда і інш. ахоплены сотавай сувяззю. У бліжэйшы час рыхтуемся ўвесці такі від сувязі ў Мазыры, Пінску, Калінкавічах, карацей, у гарадах паўднёвай часткі рэспублікі, на трасе Масква—Брэст. Праўда, пры ўмове зніжэння арэнднай платы за карыстанне міжгароднімі каналамі. Мы зараз плацім у год 9 тысяч долараў за канал, між тым, усяго нам патрэбны 132 каналы. Гэта 1 мільён 200 тысяч долараў у год. Расходная частка, такім чынам, перавышае даходную. Напрыклад, абласныя цэнтры не акупляюцца. Але мы ідзём на гэта, каб пашырыць сферу ўплыву, заваяваць рынак. Каб нешта атрымаць, спачатку трэба аддаць.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**


**ВИДЕОПЛЕЙЕРЫ**
«SAMSUNG» R30 - 190$
«SAMSUNG» 11 g - 185$
«PANASONIC» 05 - 215$
«AKAI» 150 R - 185$
«FUNAI» 5000 - 150$
**ТЕЛЕФАКСЫ**
«PANASONIC» 130 BX -365$
Телефоны
SENAO 868 - 1800$
«PANASONIC» 2365 BX -60$
«PANASONIC» 7980 - 340$
**АВТОМАГНИТОЛЫ**
«SONY» 1850 - 110$
«SONY» 3500 (4x20) - 155$
«SONY» 6450 (4x25) - 180$
Кейсы 20—35$
10 наименований
**ВИДЕОМАГНИТОФОНЫ**
«SONY» 812 HI-FI - 540$
«SONY» 712 - 350$
«PANASONIC» 400SD -370$
**АУДИОМАГНИТОФОНЫ**
«PANASONIC» 870 - 115$
«PANASONIC» 430 - 60$
«SONY» 715 - 125$
**МУЗЫКАЛЬНЫЕ ЦЕНТРЫ**
«AIWA» 70 (3 ДИСКА) 435$
«PANASONIC» 72 - 420$
«PANASONIC» 80 - 510$
**ТЕЛЕВИЗОРЫ**
«SONY» 2540 (64 CM)- 680$
«PANASONIC» 21TCC - 490$
«PANASONIC» 21S1 - 450$
«AKAI» 2107 (54CM) - 345$
«AKAI» 215 (54CM) - 355$
«SAMSUNG» 5081 - 330$
«SONY» 14MI (36CM) - 335$
**ВИДЕОКАМЕРЫ**
«PANASONIC» 3000 - 1130$; SONYTR-330 -630$
«PANASONIC» 9000 - 1490$; «PANASONIC» A3 - 630$
(0172) 292-707; 292-404; 32-82-26; 72-40-16; 276-84-95


***АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ***

# ВО ПОЛІ БЭРЭЗА

Песня — як каханне: яна нараджаецца ў душы і ў душэўных пакутах выспявае. Суладнасць і глыбіня музыкі і тэксту нясуць такі зарад абвостранай пачуццёвасці, што прымушаюць трывожыцца, хваляваццa ўсіх (незалежна ад узросту, полу, нацыянальнасці), хто судакранаўся з ёю, актывізуюць іх духоўныя памкненні, абуджаюць усё тое светлае, чыстае, што закладзена прыродай у асобе.

І каханне як песня. Калі толькі ўспыхнула ў душы, дык потым доўгі час (для кагосьці і да скону) асвятляе далейшы шлях. І каб ён не азмрочыўся, проста неабходна пастаянна дбаць пра суладнасць і глыбіню пачуццяў, думак і фізічных памкненняў.

У жыцці Міхаіла Дрынеўскага песня і каханне паяднаныя. З песняй нарадзіўся, гадаваўся, з песняй заручоны, і цяпер кожны яго дзень пераплецены-перавіты песнямі. І каханне, якое бліскавіцай успыхвала на яшчэ светлым небасхіле маладосці, раптам заравам разлілося над яго галавою, у прасторы, бударажачы душу, блытаючы дзень з ноччу ў яго свядомасці.

Здаецца, гэта было зусім нядаўна. Выразна помніцца той сонечны дзень, калі Міхаіл упершыню трапіў у вёску Дуянаўку, што ў Гомельскім раёне, усмешкі тутэйшых хлопцаў, дзяўчат. Вяскоўцы адзначалі Тройцу. Святочны настрой панаваў у хатах, выплываў на вуліцу, выяўляўся ў гульнях падлеткаў, моладзі. Міхаіл разам з Ігарам Бабковым, сябрам па музычнаму вучылішчу, крочылі вясковай вуліцай, знаёміліся. Ігару ўсё тут было роднае, для Міхаіла — усё новае. Ён уважліва прыглядваўся да наваколля: ці то прывыкаў, далучаўся да новай мясціны, ці то параўноўваў яе са сваім Тонежам. Спыніліся ля хаты Булаевых, завялі гаворку з дзяўчатамі. Чым прывабіла Святлана? — і цяпер нялёгка адказаць. Гарэзлівай усмешкай, вострым словам? (Побач з вёскай вайсковы гарадок Зябраўка, і дзяўчаты напрактыкаваліся бараніцца дасціпным словам ад няўмелых заляцанняў маладых афіцэраў.) Прыветлівым позіркам, блакітнымі вачамі? Мабыць, было ў гэтай асобе штосьці прыцягальнае, незвычайнае і ніякімі словамі тут не выкажаш, толькі застаецца ўспрыняць пачуццямі, даверыцца ім. Чароўная лёгкасць, якая напоўніла Міхаіла пры сустрэчы, не пакідала і пазней, калі ён з моладдзю імчаўся на рэчку купацца, а вечарам спяшаўся ў клуб на танцы... Гэта было ў чэрвені 1962 года.

А потым — паездкі з Гомеля ў Дуянаўку. Ружовае зарава, якое асвятляла абраную дарогу, афарбоўвалася новымі колерамі, пералівалася дзівоснымі адценнямі. У сакавіку, дакладней — на яго 24-ы дзень наступнага года, адбылося вяселле Святланы і Міхаіла. І жыццё стала больш акрэсленым, але вызначальным засталася песня. Яна, як каханне, яднае людзей...

Песню палескіх беларусаў «Во полі бэрэза» прывезла з роднай Піншчыны ў народны хор артыстка Святлана Паўлішына. Палюбіла гэтую песню і Святлана Дрынеўская. З душою і замілаваннем спявае яна за бяседным сталом. Чаму прывабіла паляшуцкая песня, чым прыйшлася даспадобы? Мо сваім выразным тэкстам, напоўненым народнай мудрасцю?.. Ці мелодыяй лірычна-працяжнай, задуменнай, якую пры спеве можна дапоўніць уласнымі перажываннямі... Ці таму, што на роднай Міхаілу Тураўскай зямлі гэтаксама яе спяваюць, а ёй прыемна ў песні далучыцца да яго мясцінаў... А мо падсвядома (на пачуццёвым узроўні) разам з гэтай песняй прыходзіць у хату, за стол тая незабыўная лёгкасць, якая апанавала маладых асоб падчас першай сустрэчы ў той святочны дзень, на Тройцу-Сёмуху, калі славяне, асабліва дзяўчаты, з любоўю ушаноўваюць бярозу...

Усё можа быць. Песню, як і каханне, адразу і не вытлумачыш.

**Міхась ШАВЫРКІН.**



**Святлана і Міхась Дрынеўскія з дзецьмі Сашам і Ленай. Яны зняты ў той час, калі сям'я адчувае моцную апеку бацькі і неаслабны мацярынскі клопат.** *Мінск, 1979 г.*

## ВО ПОЛІ БЭРЭЗА

***Песня палескіх беларусаў***

Во полі бэрэза, во полі кудрава.
Да хто йдэ нэ мінае — бэрэзу ломае. *2 р.*

Хто йдэ нэ мінае, бэрэзу ломае.
Да горэ тому жыты — хто жінкі нэ мае. *2 р.*

Выйду за ворота, трава зэлэніе —
Да за хорошым мужом жона молодіе. *2 р.*

За хорошым мужом жона молодіе,
А за нэдобрым мужом — лычэнька марніе. *2 р.*

Во полі бэрэза, во полі кудрава.
Да хто йдэ нэ мінае — бэрэзу ломае. *2 р.*



*ЯК НАС ДУРАЦЬ*

# ІМЧАЛІ ЛЮДЗІ Ў ФІРМУ...

***«Работа за мяжой!!! Фірма «Айлант» — па наступных спецыяльнасцях: будаўнік, электрамеханік, газаэлектразваршчык, токар-фрэзероўшчык, ліцейшчык, слесар шырокага профілю, сантэхнік, а таксама сельгасрабочы. Даведкі па тэлефоне 53-88-26 з 10 да 18 гадзін».***

Такія аб'явы некалькі тыдняў запаўнялі самыя відныя месцы першых старонак газет Гомеля, і народ званіў па ўказаным тэлефоне з раніцы да вечара, даведваўся аб умовах выезду на работу за мяжу, а менавіта ў Ізраіль.

Жадаючым прапаноўвалі прыйсці ў гасцініцу «Сож», дзе ў двух фешэнебельных пакоях засядалі рэспектабельнага выгляду работнікі «Айланты». Факс, камп'ютэр, прыгожае адзенне прыгожых дзяўчат зачароўвалі кліентаў, а калі ім падрабязна расказвалі аб тысячах долараў, якія яны могуць за месяц-два зарабіць на зямлі запаветнай ды яшчэ паспытаць усіх даброт заходняй цывілізацыі, будучыя наёмнікі, якія ў выніку беспрацоўя ды інфляцыі перабіваліся ў Беларусі з хлеба на ваду і наадварот, тут жа давалі згоду адразу адпраўляцца ў Ізраіль.

Ды не, не спяшайцеся, не ўсё так проста, астуджалі іх запал работнікі фірмы, усё павінна вырашаць ізраільская фірма, з якой у нас заключаны дагавор на вярбоўку грамадзян Беларусі. Давайце вашы даныя, мы змесцім іх у камп'ютэр, заплаціце ў якасці залогу сто пяцьдзесят долараў і чакайце. Не, наяўнымі грашыма нам не трэба, а ідзіце ў ашчадную касу і адпраўляйце беларускімі «зайцамі» вось на гэты рахунак. І ведайце, што наша вытворча-камерцыйная фірма венікаў не вяжа, а вы, спадары-таварышы, трымаеце сваё шчасце ў вашых руках, забяспечыце сваёй сям'і дабрабыт.

Тысячы жыхароў абласнога цэнтра і вёсак імчалі ў гасцініцу «Сож» з мэтай урэшце змяніць свой лёс. Яны ўзбагацілі фірму больш як на адзін мільярд рублёў. І, як нярэдка бывае, трапілі на кручок прайдзісветаў. Бо супрацоўнікі ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй па Гомельскай вобласці ўстанавілі, што фірма падобныя дзеянні праз свае філіялы ажыццяўляла таксама ў Мінску, Магілёве і Віцебску.

— Пакуль што мы можам сказаць толькі тое, — гаворыць начальнік упраўлення Юрый Афонін, — што фірму ўзначальваў грамадзянін Беларусі і што да яе злачыннай дзейнасці маюць дачыненне некаторыя грамадзяне Ізраіля, якія раней выехалі з нашай рэспублікі. Вядзецца следства.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# падлічыць грошы ў кішэнях працоўных

**Кажуць на Захадзе, адным з самых непрыстойных пытанняў да калегі або знаёмага лічыцца: «Колькі ты атрымліваеш грошай?» Цывілізаваныя і тактоўныя іншаземцы замяняюць яго ў крайнім выпадку больш па-філасофску абстрактным: «Як твой бізнес?»**

Ні ў якім разе не хацелася б пакрыўдзіць родную матухну-Беларусь, але Захад ёсць Захад. Колішні аднакласнік, калега або сябар пры сустрэчы не вельмі абцяжарвае сябе ўмоўнасцямі і «лепіць» адразу пасля прывітання: «Колькі атрымліваеш?» Зрэшты, што наша жыццё? Барацьба за існаванне, дзе наяўнасць і колькасць гэтых самых грашовых знакаў дазваляе адчуць сябе больш-менш прыстойна ў кампаніі роўных сабе па розуму або лесвічнай пляцоўцы. Вось людзі і імкнуцца даведацца, дзе больш зарабляюць. З гэтай жа нагоды карэспандэнт «Звязды» вырашыў звярнуцца на буйнейшыя мінскія прадпрыемствы. Адразу зазначу, што справа гэтая аказалася не з лёгкіх, хаця аўтар гэтых радкоў нават не імкнуўся даведацца пра замежных партнёраў, сумы кантрактаў, сакрэтныя тэхналогіі. Пытанне было толькі адно: колькі атрымлівае працаўнік на канкрэтным прадпрыемстве. Ды дзе там! Каб здабыць неабходныя некалькі радкоў інфармацыі, прыходзілася амаль у кожным выпадку па некалькі разоў (уверх па службовай лесвіцы) тэлефанаваць кіраўнікам розных узроўняў. Тыя ў сваю чаргу давалі (а часцей не) згоду «ўніз» на атрыманне звестак. Змарнаваўшы добрую частку працоўнага дня, усё ж застаўся амаль ні з чым. І ў нечым спадароў кіраўнікоў можна зразумець: камерцыйная тайна і г. д. Але палохацца назваць зарплату рабочых? Гэтыя ж даныя, як пацвердзілі ў адной размове, потым накіроўваюцца ў Міністэрства статыстыкі і аналізу. А адтуль іх накіроўваюць ва ўсе сродкі масавай інфармацыі — дзякуй Богу, мова лічбаў ужо даўно не з'яўляецца тайнай для грамадскасці. Чаго ж баяцца?

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*СКАНДАЛ*

# УЗЯЎ МЫТНІК ХАБАР...

**Сумны лік хабарнікаў на Гомельскай мытні адкрыў сёлета яе інспектар Мікалай Шкут. А здарылася гэта пры наступных абставінах.**

Маладой грамадзянцы з Чарнігаўскай вобласці, якая жыла толькі з таго, што вазіла ў Санкт-Пецярбург прадаваць тавар, як яна прызналася ў міліцыі, абрыдла даваць хабар беларускім мытнікам на чыгуначным вакзале Гомеля за правоз яго ў Расію. І калі ў міліцыі спачатку не паверылі гэтаму, узялася сяго-таго вывесці на чыстую ваду, для чаго папрасіла памеціць дзве купюры Расійскай Федэрацыі па пяцьдзесят тысяч рублёў.

І вось яна едзе ў поездзе Кіеў—Санкт-Пецярбург. Сёмая гадзіна раніцы. Гомельскі вакзал. У купэ шостага вагона заходзіць Мікалай Шкут, які працуе на мытні восьмы месяц. Угледзеўшы ў руках украінкі дзве вялікія сумкі і запатрабаваўшы ў яе пашпарт, ён гаворыць, што жанчына павінна заплаціць пошліну.

— Ды грошай у мяне няма, — пачала прасіцца тая.

— Нічога не ведаю, — строга парыруе інспектар. — Закон ёсць закон: выходзьце з вагона, далей вы не паедзеце, — і накіроўваецца ў суседні вагон.

— Давайце па-добраму разыдземся, — прапанавала яна і ўклала ў далонь мытніка тыя дзве памечаныя купюры. Інспектар прыняў іх як належнае і хуценька пакрочыў у пакой адпачынку мытнага паста. Там ён залез пад ложак і надзейна схаваў грошы пад лінолеум, дзе яшчэ знаходзіліся дваццаць восем тысяч «зайцоў», пяцьдзесят сем долараў і мільён украінскіх купонаў.

А праз некалькі хвілін у пакой зайшлі работнікі лінейнага аддзела міліцыі і, сказаўшы, што яны ведаюць аб хабары, прапанавалі добраахвотна прызнацца ва ўсім, бо гэта змякчыць яго пакаранне пры вынясенні судовага прыгавору. Шкут правільна ацаніў абстаноўку і адмаўляцца не стаў. Зараз на яго заведзена крымільная справа.

І ў заключэнне наступныя дзве лічбы — 66 і 10. Першая азначае колькасць гомельскіх мытнікаў, якія летась не бераглі гонар мундзіра і за розныя парушэнні прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці. Другая — супраць стольскіх супрацоўнікаў былі ўзбуджаны крымінальныя справы.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# НАСТАЎНІЦА І СВЯТАР АБ'ЯДНАЛІ НАМАГАННІ

З камандзіроўкі ў Санкт-Пецярбург, куды настаўніцу з Лёзна Ніну Ціхаміраву і айца Расціслава накіраваў райвыканкам, яны прывезлі апісанне некалі існаваўшага ў райцэнтры помніка архітэктуры XVIII стагоддзя Свята-Уваскрэсенскай царквы. Інтэлігенцыя і вернікі пры падтрымцы ўладаў вырашылі аднавіць знесены будынак.

Месца пад будучы храм адведзена, як паведаміла абласная газета «Віцебскі рабочы», першы ўзнос у памеры 1 мільёна рублёў унеслі на будаўніцтва педагогі і вучні Лёзненскай сярэдняй школы № 1.

**Паліна АЛЯКСАНДРАВА.**
*г. Віцебск*

# «ПРІОРБАНК» УКЛАДВАЕ СРОДКІ Ў ДОЎГАТЭРМІНОВЫЯ ПРАГРАМЫ

У адрозненне ад іншых беларускіх камерцыйных банкаў «Пріорбанк» не пацярпеў ад наступстваў лакальнага банкаўскага крызісу, што дазволіла завяршыць 1995 фінансавы год з высокімі паказчыкамі на нацыянальным і міжнародным фінансавым рынку. Устойліва раслі актывы, аб'ём якіх павялічыўся за год амаль у два разы і склаў больш як 4 трлн. рублёў. Памер статутнага фонду ўзрос у 43 разы і дасягнуў 117,7 млрд. рублёў. Даходы банка перавысілі ўзровень 1994 года ў шэсць разоў.

Рост кліентуры (да 188 тысяч), у першую чаргу прыватных укладчыкаў (90 працэнтаў ад ўсёй колькасці), надае банку дадатковую ўстойлівасць і дазваляе ўкладваць сродкі ў доўгатэрміновыя праграмы. Аб'ём крэдытных укладанняў за мінулы год склаў 8283,2 млрд. рублёў. Сярод буйных праектаў, фінансуемых «Пріорбанкам», -- набыццё самалётаў для грамадзянскай авіяцыі, будаўніцтва моста праз раку Днепр у Магілёве, закупка тэхналагічнага абсталявання для вытворчасці мэблі, стварэнне беларускага тралейбуса і шэраг іншых.

**Аляксандр ШЧАДРАНОК.**

*КРЫМІНАЛ*

# МІМА ДЗЯРЖАЎНАЙ КАСЫ

**Пракуратурай рэспублікі прааналізавана дзейнасць у Беларусі на рынку нерухомасці рыэлтэрскіх фірмаў (рыэлтэр — пасрэднік па продажы нерухомасці).**

У асноўным такія пасрэдніцкія фірмы дзейнічаюць са статусам АТ, ЗАТ (акцыянерных таварыстваў, закрытых акцыянерных таварыстваў), брокерскіх і маклерскіх кантор, страхавых агенцтваў і г. д. Іх у Беларусі налічваецца каля 200. Найбольш буйнымі з'яўляюцца Беларуская асацыяцыя «Нерухомасць», Беларуская гільдыя спецыялістаў па нерухомасці, АТ «Заходняя біржа нерухомасці» і інш.

У састаў Беларускай гільдыі спецыялістаў па нерухомасці ўваходзяць 37 фірмаў і аб'яднанняў, у тым ліку з Германіі і Літвы, у асацыяцыю «Нерухомасць» — 22 фірмы. Пасрэдніцкія фірмы актыўна ўключыліся ў продаж нежылых памяшканняў (вытворчыя, складскія), а таксама розных пабудоў (гаражы, дачы)... Спецыялісты фірмаў аказваюць розныя паслугі, пачынаючы з кансультацый і ацэнкі пабудоў і заканчваючы поўным афармленнем дакументаў. З'явіліся і прафесіянальныя ўдзельнікі рынку нерухомасці (брокеры, ацэншчыкі).

Усё б гэта было добра, каб заканадаўчая база пастаянна не адстае ад жыцця. Адсутнічаюць прававыя дакументы, якія рэгламентуюць многія віды такой дзейнасці.

Гэта неабходна зрабіць як мага хутчэй, паколькі з-за адсутнасці інфармацыі кліенты не маюць ніякага ўяўлення, з якімі спецыялістамі яны маюць справу, і наогул, ці з'яўляюцца яны спецыялістамі адпаведнай кваліфікацыі. Мяркуючы па цэнах на свае паслугі, напэўна ж з'яўляюцца. Напрыклад, у Мінску паслугі рыэлтэрскіх агенцтваў складаюць прыкладна: па прыватызацыі кватэр — 100 долараў ЗША, ацэнцы кватэры — 60, пры куплі кватэры — ад 500 да 1000 долараў, нават за кансультацыю не менш як 20 долараў ЗША. А, як вядома, дзе грошы, там актыўна ўкараняецца крымінальны свет. Прыкладаў пранікнення махляроў у розныя фірмы, што збіраюць грошы з грамадзян, больш чым дастаткова.

Наша ж дзяржава пры цяперашняй складанай эканамічнай сітуацыі не мае ад такой пасрэдніцкай дзейнасці практычна ніякага даходу. А можа ж мець, і даволі значны, калі прыняць адпаведныя прававыя дакументы і на іх аснове выдаваць ліцэнзіі на рыэлтэрскую дзейнасць.

Гэта дазволіла б разам з атрыманнем грошай у дзяржказну абмежаваць доступ на рынак нерухомасці структур, якія не валодаюць неабходным узроўнем кваліфікацыі, а таксама ажыццяўляць кантроль за іх дзейнасцю.

Час патрабуе і прыняцця закона «Аб гандлі нерухомасцю», увесці ў Грамадзянскі кодэкс паняцце «нерухомасць», стварыць сістэму рэгістрацыі правоў на нерухомасць, маёмасць. Мяркую, што гэтыя праблемы павінны хваляваць не толькі органы пракуратуры. В. а. Генеральнага пракурора РБ В. С. Капітанам па гэтых праблемах накіравана інфармацыя Прэзідэнту і ў Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**старшы памочнік Генеральнага пракурора РБ.**

*СКАНДАЛ?*

# ДОПІНГ: БЕЛАРУСКАЯ СПАРТСМЕНКА ЧАКАЕ ВЫНІКАЎ ПРОБЫ «В»

Днямі прыйшло паведамленне аб тым, што беларуская скакуха ў вышыню, удзельніца чэмпіянату свету па лёгкай атлетыцы ў Гётэборгу Таццяна Шэўчык выкрыта ў выкарыстанні допінгу. За што ёй пагражае дыскваліфікацыя, а значыць, шлях да ўдзелу ў Алімпійскіх гульнях у Атланце закрыты.

Прэзідэнт Федэрацыі лёгкай атлетыкі Беларусі Аляксандр Рудскіх на гэтае паведамленне адрэагаваў даволі спакойна, паколькі, маўляў, па справе Шэўчык яшчэ рана рабіць нейкія высновы.

У свой час Таццяна Шэўчык па назначэнню доктара прымала таблеткі, якія ўтрымліваюць нязначную частку неанабалічнага прэпарату мекілтэстастэрону, што забаронены для ўжывання Міжнароднай федэрацыяй лёгкай атлетыкі. Дзесьці месяц таму на вучэбна-трэніровачных зборах у Польшчы ў беларускай спартсменкі былі ўзяты аналізы на допінг. Проба «А» была ўскрыта ў міжнароднай спартыўнай лабараторыі ў Барселоне і паказала станоўчы вынік.

Калі ж і проба «В» пакажа тое ж самае, то тады Шэўчык пагражае дыскваліфікацыя.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# СМЕРЦЬ ДЗЯЦЕЙ — НА СУМЛЕННІ ДАРОСЛЫХ

**Як паведаміла старшы інспектар Рэспубліканскага цэнтра проціпажарнай прапаганды Таццяна Загвоздкіна, жыцці чатырох маленькіх дзяцей адабраў агонь пажараў толькі за адзін тыдзень.**

У памяшканні інтэрната жыллёва-камунальнай гаспадаркі ў г/п Ушачы ад перанагравання печкі загарэлася перагародка ў той момант, калі там без нагляду знаходзіліся трохгадовы хлопчык і яго сястра, якой быў усяго адзін год. Пра нездавальняючы проціпажарны стан гэтага будынка неаднаразова гаварылася кіраўніцтву: апошняе прадпісанне жылкамунгасу было накіравана ў снежні 1995 года.

У г/п Уваравічы Буда-Кашалёўскага раёна ў дыме задыхнуўся двухгадовы хлопчык. Прычынай трагедыі ў гэтым выпадку стала гульня з запалкамі двух яго старэйшых братоў, якія, дарэчы, паспелі саскочыць з печкі, калі адзенне, што там ляжала, пачало тлець.

У Брэсце памерла, атруціўшыся чадным газам дзяўчынка: над яе ложкам знаходзілася ўключанае бра з накінутым на яго ручніком. Ёй не было і двух гадоў. Маці ў час пажару была на рабоце.

***Усяго за апошні тыдзень у краіне адбыліся 252 пажары, урон ад якіх склаў 1 млрд. 533 млн. рублёў. Агнём было знішчана і пашкоджана 176 пабудоў, 10 галоў жывёлы, 373 тоны грубых кармоў, 2 адзінкі тэхнікі, 22 чалавекі загінулі.***

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ

## у камерцыйных банках на 9 лютага 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраў.) | 11700 | 11950 | 7850 | 8150 | 2.30 | 2.55 | 067 |
| Белбізнесбанк (гарадская дырэкцыя) | 11700 | 12000 | 7800 | 8150 | 2.30 | 2.55 | |
| Белзнешэканомбанк | 11700 | 11900 | 7750 | 8300 | 2.30 | 2.50 | 267-022 |
| ФК «Вераніка»*** (за расійскія рублі) | 11820<br>4760 | 11950<br>4850 | 7900 | 8100 | 2.45 | 2.52 | 531-504 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 11750 | 12000 | 7600 | 8000 | 2.10 | 2.55 | 372-825 |
| Народны банк | 11800 | 12200 | 7900 | 8200 | 2.36 | 2.52 | 238-610 |
| «Алімп» | 11850 | 12150 | 7950 | 8200 | 2.45 | 2.56 | 508-556 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 11800 | 12100 | 7800 | 8100 | 2.35 | 2.48 | 291-646, |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 11500 | | 7766.60 | | 2.43 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4738 | | 3201.14 | | 100 бел.р. 38.90 | | |

**Агенцтва Граўцова.**

***Віншуем дарагую жонку і маці ПЛЁСКА Святлану Пятроўну з днём нараджэння. Жадаем шчасця, дабрабыту, ніколі горача не знаць, заўсёды часта ўсміхацца, па дробязях не засмучацца, заўжды душою маладзець.***
***Здароўя табе і кахання!***

**Муж Тадэвуш і сын Дзяніска.**

**СЁННЯ**

## СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.57 | 16.49 | 8.52 |
| Віцебск – | 7.52 | 16.34 | 8.42 |
| Магілёў – | 7.46 | 16.38 | 8.52 |
| Гомель – | 7.38 | 16.41 | 9.03 |
| Гродна – | 8.11 | 17.05 | 8.54 |
| Брэст – | 8.06 | 17.11 | 9.05 |

## МЕСЯЦ

**Апошняя квадра 12 лютага**

## ІМЯНІНЫ

**Пр. Яфрэма, Феадосія**

**К. Схаластыкі, Яцэка**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца марознае надвор'е, пераважна без ападкаў. Тэмпература паветра ў Гродне і Брэсце — 12—14, Мінску — 13—15, Гомелі — 14—16, Магілёве і Віцебску — 15—17 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак: 11-га захаваецца халоднае, без ападкаў надвор'е; 12-га чакаецца змяненне надвор'я: уначы па паўднёваму захаду, удзень — на большай частцы тэрыторыі снег, мяцеліца. Маразы аслабнуць.

## Медыцынскі прагноз надвор'я на 10 лютага

У бліжэйшыя суткі надвор'е істотна не зменіцца. Утрыманне кіслароду ў паветры па-ранейшаму будзе вышэй за сярэднія шматгадовыя даныя. Захаваецца спастычны тып надвор'я. Таму метэазалежныя хворыя, схільныя да спастычных рэакцый, будуць адчуваць сябе не лепшым чынам.

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца захоўваць ашчадлівы рэжым, прымаць заспакаяльныя і сасударасшыральныя лекавыя прэпараты.

**Антаніна КАРОЗА, навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

# НА ПОДЫУМЕ — ЗІМА

**Зіма-чараўніца з'яўляецца ў нашым жыцці бы асляпляльная казка. Яе не цікавіць, якая партыя зараз пры ўладзе і які сёння курс долара. Зіма абрушваецца на нас гурбамі снегу, бляклым халодным сонцам і празрыстай, як кісяя, завеяй. Яна робіць з лужын люстэркі, а ў люстэрках гэтых адбіваюцца не тоўстыя снежныя бабы з насамі-морквінамі, з мятлой, а Снежныя Каралевы. Мы з вамі. Бо паспрабуй у гэты час не быць каралевай — тады мы проста не ўпішамся ў таямніча-дзівосны зімовы пейзаж.**

**Каралева ж заўжды пачынае апранацца па законах моды і спакусы.**

Перш за ўсё — футра. Яно, лёгкае і цёплае, павінна не толькі засцерагчы нас ад холаду, але і ўпрыгожыць любую жаночую постаць. На белым снегавым дыване цудоўна будуць глядзецца яркія, каляровыя плямы — барвовыя, чырвоныя, блакітныя. Менавіта такіх колераў штучнае футра нам раяць насіць беларускія мадэльеры.

Цёплыя, аб'ёмныя, утульныя курткі таксама лепш за ўсё мець з апухай — на рукавах, каўняры, на кішэнях, капюшоне, па нізу. Не першую зіму нам раяць увесці ў свой гардэроб такую рэч, як муфта. Нешта ёсць у ёй рамантычнае, праўда? Дзяўчыну з муфтай так і цягне ўявіць сябе гімназісткай пачатку стагоддзя. А калі яшчэ да зімовага жаночага ўбору дадаць каляровыя шарсцяныя хусткі, то тут без успамінаў пра мінулыя часы ніяк не абысціся.

У моладзі папулярная гульня «Багаты — жабрак», калі ў ансамблі спалучаюцца кантрастныя па колеру і фактуры рэчы. Пад футра на штаны рэкамендуецца насіць пашыраныя блузкі з лёгкіх, амаль празрыстых, тканін. А на блузкі — тунікі і міні-сукенкі «тоўстай» вязкі.

Вельмі нядрэнна будзе глядзецца такі ансамбль: паліто з тканіны «пад рагожу» з цёмна-зялёным каўняром са штучнага футра, маленькі капялюшык з вузкімі палямі, сукенка-міні зялёнага колеру, высокія чорныя боты. Ці камплект з доўгага шырокага паліто з некалькімі разрэзамі і буйнымі гузікамі і карычневага капелюша. Прычым мода нам даўно ўжо раіць выкарыстоўваць у ансамблях рэчы розных адценняў аднаго колеру.





Шырокія цёплыя штаны суседнічаюць у зімовым жаночым гардэробе з доўгімі і вузкімі спадніцамі ў клетку ці ў палоску. Спадніцы могуць быць і аднатоннымі: барвовымі, чырвонымі, карычневымі. На іх па-ранейшаму модна рабіць некалькі разрэзаў адначасова.

Маленькія элегантныя капялюшыкі будуць пасаваць да камплекта з шырокіх штаноў і трыкатажнага пінжака. Дарэчы, у трыкатажы вельмі папулярная тэма «качэўнікі»: мужчынскія шырокія курткі з некалькімі разрэзамі ўнізе плюс каляровыя доўгія шалікі. Такія ансамблі аздабляюцца рознымі завязкамі, кутасамі, махрамі.

Лёгкія міні-паліто кампануюцца з доўгімі баа з футра, завязанымі на шыі бантамі — гэта надзвычай прыгожа і вельмі па-жаноцку. Іх колеры: белы, шэры, чорны, малюнак — палоска.

Класічны англійскі касцюм — гэта рэч з катэгорыі «вечнага», бо жанчына любога ўзросту і камплекцыі выглядае ў ім вытанчана і эфектна. Ансамблі з чырвоных штаноў і чырвоных доўгіх пінжакоў дапаўняюцца каляровымі квяцістымі блузкамі. Высокія вузкія боты, маленькі капялюшык з клятчастай шэрай тканіны, шырокі пояс — гэта неабходнасць. Ператварыць дзелавы касцюм у недзелавы можна наступным чынам: надзець эратычнае карункавае бюсцье.

Цяпер пра колеравую гаму. Фальклорны стыль прызнае яркія чырвона-аранжава-карычневыя адценні і выкарыстанне паласатай тканіны. Паліто рэкамендуецца шыць з кашэміру. Вузкія барвовыя паліто існуюць побач з цёмна-сінімі, свабоднымі. Даўжыня — да шчыкалаткі. Класічныя доўгія плашчы — колеру «завялай ружы».

А вось стыль «школьніца» аддае перавагу колеру «графіці». Доўгія ці кароткія шэрыя спадніцы ці штаны. Шырокія манжэты на рукавах. Камізэлькі і жакеты. Невялічкія разрэзы на спадніцах.

Глядзелі фільм «Чалавек з бульвара Капуцынаў»? Яго героі апранутыя ў стылі «вестэрн». Гэта каўбойскія штаны і вялікія капелюшы з шырокімі палямі, клятчастыя спадніцы з разрэзамі, белыя шырокія паясы і светла-зялёныя пінжакі. Усе рэчы шыюцца і з джынсу — гэтая тканіна заўсёды ў фаворы.

Зімовы сезон надзвычай багаты на святы, і таму святочныя сукенкі будуць вам цікавыя. Напрыклад, так званыя «сукенкі для кактэйлю» — маленькія, з няроўным нізам, з дэкальтэ, на шлейках, са шлейфам. Да такой сукенкі пасуюць толькі чаравікі на высокіх абцасах, не інакш. Яшчэ рэкамендуюцца касцюмы: пінжак, упрыгожаны вышыўкай, а спадніца — чорная і кароткая. Вячэрнія сукенкі — гэта аксаміт і парча колеру золата і чорнага начнога неба.

**Зімовая мода, як заўжды, не прымушае нас насіць тыя ці іншыя ўборы, не, яна толькі раіць. А вы ўжо самі, як спадарыня разумная, вытанчаная, з добрым густам, хоць і з амаль пустым кашальком, зможаце зрабіць з сябе Жанчыну Мужчынскай Мары. Ці ж не так?**

**Ніна ПРАКОПЧЫК, Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## УСХОДНІ ГАРАСКОП

**З Дэлі перадае кар. ІТАР — ТАСС Юрый КАЗЬМІН**

Даволі аднастайна пройдзе гэты тыдзень у КАЗЯРОГА. У гэтыя дні вам лепш завяршыць усе пачатыя справы. Астролагі раяць менш траціцца і не ўкладваць сродкі ні ў якія мерапрыемствы. Пазбягайце новых знаёмстваў і, што асабліва падкрэсліваецца, трэба быць больш стрыманымі, незапальчывымі ў зносінах з процілеглым полам.

ВАДАЛЕЮ трэба будзе ў гэтыя дні прыняць важнае рашэнне, якое акажа значны ўплыў на ход далейшых падзей у вашым жыцці. Пастарайцеся не канцэнтраваць увагу на дробязях, а засяродзьцеся на адной, вельмі важнай для вас справе. У зносінах з блізкімі варта пазбягаць любых дыскусій і спрэчак, паколькі яны не дадуць выхаду з сітуацыі.

Паспяхова ідуць справы ў тых, чый знак РЫБЫ. Вы можаце працягваць пачатае нядаўна дзелавое знаёмства, гэты чалавек заўсёды гатовы аказаць вам любую паслугу. Пастарайцеся правільна размяркоўваць нагрузкі і ўпарадкаваць усе справы на службе. Магчыма, у бліжэйшы час вам прапануюць новую, больш даходную пасаду. Асабліва прыхільныя зоркі да музыкантаў, людзей, якія займаюцца гуманітарнымі навукамі. На выхадныя лепш выязджаць на прыроду.

У гэтыя дні астролагі раяць АВЕНУ самастойна вырашаць усе пытанні, звязаныя з фінансамі. Магчыма, у канцы тыдня да вас прыедуць даўнія сябры. Незвычайны прыліў сіл адчуюць спартсмены, у якіх наперадзе адказныя спаборніцтвы. Можаце быць упэўнены ў сваіх сілах, адно з прызавых месцаў будзе за вамі. Асабліва добра ідуць справы ў маладых бізнесменаў і вучоных, якія могуць у рабоце дабіцца выдатных вынікаў.

У ЦЯЛЬЦА наперадзе бурны тыдзень. Як указваюць астролагі, цяпер у вас узнікла жаданне пачаць некалькі спраў. Для гэтага лепш параіцца з юрыстам, асабліва гэта важна для тых, хто заняты ў гандлі. Моцнае захапленне можа адцягнуць маладога чалавека ад спраў на службе, будзьце асцярожнымі, гэта можа паўплываць на вашу яшчэ толькі пачатую кар'еру або адносіны з блізкімі.

Дастаткова складаны тыдзень наперадзе ў БЛІЗНЯТ, якія нягледзячы на ўсе цяжкасці, дастойна выйдуць з неспрыяльнай сітуацыі, якая склалася. У той жа час гэтыя дні напоўнены спрэчкамі і высвятленнямі адносінаў з членамі сям'і. Асабліва напружаным будзе тыдзень у тых, хто заняты ў медыцыне. Маладая дама атрымае магчымасць наведаць адну з заходніх дзяржаў з дзелавымі мэтамі.

Пазбягаць не правераных у справе людзей раяць РАКУ, звязанаму з гандлем. Большую частку часу вы праведзяце ў сям'і або з любімым чалавекам. У той жа час можаце пачаць новую справу, звязаную з бізнесам. Тыя, хто завяршыў навуковую працу ў галіне дакладных навук, могуць атрымаць у бліжэйшы час навуковую ступень. Устрымайцеся ў гэтыя дні ад падарожжаў.

ІЛЬВУ зоркі дапамогуць расшырыць сферу дзейнасці або актывізаваць усе намаганні ў адной важнай справе. Астролагі раяць вам быць вельмі ўважлівым з дакументацыяй, не заключаць новыя дагаворы без парады кампетэнтнага ў гэтай справе чалавека, якому вы можаце поўнасцю давяраць. Пятніца будзе азнаменавана прыемнай для вас падзеяй, якой — астролагі не ўдакладняюць. Цудоўная дама зноў авалодвае вашымі думкамі.

Астролагі раяць ДЗЕВЕ даць зразумець тым, хто суне нос у вашы сямейныя адносіны, што вы «не лыкам шытыя». Цяпер справы ў вас яўна ідуць значна лепш. Апасайцеся незнаёмых дарадчыкаў або людзей, гатовых на словах вам дапамагчы. Гэтыя людзі толькі ўнясуць яшчэ больш няяснасці ў вашы планы. Некаторыя з вас у канцы тыдня атрымаюць доўгачаканую прэмію ці павышэнне па службе.

У ШАЛЯЎ цяпер самы спрыяльны перыяд для пачатку новых спраў або правядзення здзелак. У сямейных адносінах вы знаходзіце тую залатую сярэдзіну, якая дапамагае вам утрымліваць баланс захавання сваіх інтарэсаў і членаў вашай сям'і. Ліквідаваўшы дробныя перашкоды, вы можаце пралажыць сабе шлях да новых вяршынь. Вывучэнне навук для некаторых студэнтаў адкрые магчымасці паспрабаваць сілы ў новай галіне пазнання.

Дасягнуць большага СКАРПІЁНУ перашкаджае адсутнасць кампетэнтных памочнікаў. У той жа час не спрабуйце адразу знайсці аднадумцаў. Паступова адбірайце людзей для той справы, якая, па вашаму плану, узніме вас на новую прыступку. Апасайцеся прастудных захворванняў, пастарайцеся менш бываць на адкрытым паветры, пазбягайце незнаёмцаў у зносінах.

Зоркі раяць СТРАЛЬЦУ быць напагатове і не ўпусціць выдатную магчымасць. Таксама трэба выконваць дагаворныя абавязацельствы і не адступаць ад агульнапрынятых правілаў. Жанчынам у гэтыя дні могуць зрабіць цікавыя прапановы, звязаныя са службай. Калі вы закахаліся, паспрабуйце яшчэ раз праверыць свае пачуцці. Важную для вас справу трэба абмеркаваць з кампетэнтным чалавекам.

*МАГІЯ ПРЫГАЖОСЦІ*

# ЧАРЫ НАД ТВАРАМ

**ПРЫЕМНА БЫЦЬ ПРЫГОЖАЙ**. Чаго гэта каштуе ў наш час — жанчыны ведаюць, а мужчыны толькі здагадваюцца. Яны, святая прастата, думаюць, што калі ў маладзіцы недзе незашпілены гузік, ці кучар валасоў выбіўся з прычоскі, то гэта ад таго, што яна спяшалася. Дзівакі! Усё зараней прадумана і вылічана.

Ці вось, напрыклад, макіяж. Некаторыя недасведчаныя лічаць, што калі з твару дзяўчыны амаль капаюць туш, памада, пудра, крэм — то яна на дзіва добра валодае майстэрствам быць прыгожай.

А на самай справе ўсё інакш. Толькі калі мы можам стварыць ілюзію таго, што нават не ведаем пра такі цуд, як касметыка, толькі тады мы будзем выглядаць модна і прыгожа.

Як гэта зрабіць?

Ну, па-першае, карыстацца касметычнымі сродкамі беларускіх фірмаў. А прычыны для гэтага такія. Мы доўга, з самага нараджэння, жывём амаль увесь час у адной мясцовасці (вяжы на турэцкі базар ці на Канары тут не ўлічваюцца). Наш арганізм, і скура твару ў прыватнасці, быццам бы прызвычайваюцца да беларускай вады, ежы, паветра. Магчыма, яны не самыя лепшыя ў свеце, і ў Таіландзе сонейка ярчэйшае, але наша цела ўжо неяк прыстасавалася менавіта да гэтага, а не да іншага. Таму, калі мы карыстаемся крэмам, створаным у Іспаніі ці Францыі, гэта, канешне, вельмі прэстыжна, але ці будзе нам на карысць? Крэмы айчынных фірмаў як мага лепш падыходзяць менавіта для нас, беларусачак. У іх ёсць вітаміны А і Е, гліцэрына, экстракт алоэ і ўсе гэтыя кампаненты наша скура не адпрэчыць з прычыны іх «мясцовага паходжання».

Крэм, як заўсёды, наносіцца тонкім слоем на твар, а праз нейкі час лішняе знімаецца сурвэткай. Пасля — пудра. І толькі ўжо потым можна прыступаць да дэкаратыўнай касметыкі.

Пунсовыя яркія вусны ў гэтым сезоне робяць з дапамогай не аднаго цюбіка губной памады, а адразу некалькіх. Гэта можа дапамагчы стварыць нам на дзіва прыгожы колер, нечаканы і таму прыцягальны для мужчынскіх вачэй, бы магніт.

Праўда, не аднойчы ўжо ўзнікала такое пытанне. Мы, канешне, жанчыны небагатыя і няспешчаныя, але чаму мы павінны карыстацца ўсім другасортным у свеце? Маем жа мы права на тое, каб на нашым туалетным століку стаяла нешта такое... такое... ну, адзінае і непаўторнае. Каб такога не было не толькі ў суседкі Мар'і Іванаўны, але і ў... баранесы якой-небудзь. Маем мы на гэта права ці не? Мы, прыгожыя, разумныя і на дзіва абаяльныя беларусачкі?

Вочы, як вядома, не толькі люстэрка душы, але і той аб'ект, на які мужчыны звяртаюць больш за ўсё ўвагі.

Сёння цені для павек ні ў якім разе не павінны быць «яркімі і бліскучымі». Перламутр даўно адышоў. Асабліва ўдзень цені могуць быць толькі мяккіх, пастэльных тонаў. Наносіць іх трэба тонкім, амаль нябачным слоем. Яны, цені, павінны рабіць вочы больш выразнымі, але іх не трэба выкарыстоўваць зашмат.

Пасля макіяжу займёмся касцюмам. Але гэта — пасля. А зараз мы наносім на свой твар апошні штрых — мы прыклейваем да яго ўсмешку. Прыклейваем трывала, на стагоддзі, каб ніякі вецер змен не садзьмуў яе, — гэтае галоўнае ўпрыгажэнне нас і нашага твару.

**Ніна ПРАКОПЧЫК.**

*МАРЫНА ГАРЭЛАВА:*

# «НЯХАЙ МОЙ МАЛЕНЬКІ МАЛЮНАК СТАНЕ ПЕРАШКОДАЙ ДЛЯ ЧЫЁЙСЬЦІ СЛЯЗЫ»



Звычайны лютаўскі дзень, падобны на мноства іншых, што знаходзяцца спачатку недзе наперадзе, потым, параўняўшыся з намі, бягуць побач, а пазней, быццам бы адстаўшы ў шалёнай мітусні, адыходзяць на другі план, адстаюць, і ніхто пра іх не ўспамінае, таму што позіркі скіраваны наперад, дзе на гарызонце адбываецца нараджэнне новага «цуда» — Дня Надзеі. І мы ўжо бачым яго абрысы, бяжым насустрач, чакаючы, што здзейсняцца нашы самыя простыя, зямныя жаданні і стане крышачку лягчэй, прасцей, святлей. Гэтыя святло, радасць, патрэба ў якіх жыве ў кожным з нас, і імкнецца прынесці ў наша жыццё мастак-карыкатурыст.

Вось і я, узяўшы пяро і туш, спрабую перадаць сваё светаадчуванне праз смешныя малюнкі. Дзеля чаго? Каб дарагі мой зямляк, старанны працаўнік, які стаміўся ад грашовых праблем, таўкатні ў транспарце, лаянкі, зласлівасці, нарастаючай нецярплівасці і пачуцця безвыходнасці, раптам іначай зірнуў на знаёмую сітуацыю. І, магчыма, гэты новы позірк дапаможа яму пазбегнуць канфлікту ці рэзкага абвінавачання ў адрас такога ж ашалелага ад пастаяннага бязладдзя бедака.

Я веру, што гумар робіць чалавека больш мяккім і разважлівым. Варта толькі крытычна асэнсаваць сітуацыю, як абавязкова ўсміхнешся, а значыць, пастараешся яе змяніць. Так, я часта смяюся і хачу, каб і іншыя смяяліся, смяяліся як мага больш, як мага званчэй насуперак лёсу, каб добры, чысты, шчыры смех чуўся паўсюдна. І няхай мой маленькі малюнак стане перашкодай для чыёйсьці слязы.

А ці лёгка сёння маёй карыкатуры прабіцца да чытача? На жаль, не. Бо я, пачынаючы, толькі яшчэ пачынаючы хадок, шлях якога — вузкая сцяжынка ў дрымучым, ствол да ствала, лесе славутых карыкатурыстаў. Тым больш, што многія з прафесіяналаў лічаць карыкатуру чыста мужчынскім заняткам, і часам чуеш: «Марына, ты лезеш у мужчынскую справу». А мне здаецца, што карыкатура — не мужчынская і не жаночая справа, а агульная. Агульная для тых, хто ёю дыхае, хто яе стварае. Яна непадзельная. Галоўнае — думка, а ў чыёй галаве яна ўзнікла, на мой погляд, усё роўна. Поспех малюнка залежыць ад таго, наколькі вострая і глыбокая гэтая думка, хоць, як кажуць, на смак і колер таварыша не знойдзеш, і адна і тая ж карыкатура часта вельмі па-рознаму ўспрымаецца рознымі людзьмі.

Як зрабіць малюнак больш наглядным і выразным? Якім чынам дабіцца таго, каб ён спрацоўваў імгненна, выклікаючы ўсмешку чытача? Вось што мяне хвалюе. Ідзе пошук сродкаў выразнасці, авалодванне тэхнікай. Не патрэбны подпісы пад карыкатурамі А. Гармазы, Ю. Рыжыкава, А. Каршакевіча, А. Папова, М. Гіргеля, А. Гурскага — яны пазнаюцца дзякуючы своеасаблівасці творчай манеры. Мне таксама хацелася б выпрацаваць свой почырк, знайсці свой твар. Ці ўдасца, гэта ж вынік працяглай і ўпартай працы. Ці хопіць сіл? Ці будзе што сказаць? Пакажа час.

А пакуль ёсць сённяшні лютаўскі дзень. Ёсць пяро, туш, папера — тое адзінае, на што хапае ганарара (на добрыя фарбы для каляровай карыкатуры разлічваць не даводзіцца). Ёсць думкі, цікавасць да людзей, прага зносінаў і жаданне маляваць, пакуль малюецца.








— Апошні бальнічны ліст раз...




— Мама, глядзі, Анкл Бенс!



Пасля доўгіх гадоў шлюбнага жыцця.



— Гэтага мала. Мы ж ліцэісты, а не якія-небудзь школьнікі.

новые поступления
JVC aiwa
музыкальные центры "мини и миди"; одно и двухкассетные; деки;
видеокамеры; магнитолы; автомагнитолы; аудиоплейеры (обычные, пишущие и с УКВ приемником); стереотелефоны.
PIONEER
Минск, ул. Энгельса,30. Тел.26-09-24.
ВИКТОРИЯ торговый дом
Минск, ул.Дрозда 8. Тел. 23-24-68.
Работаем без выходных.
Гомель, Речицкое шоссе 4а. Т.46-66-57.
Брест, ул. Московская 326. Т.42-38-05.
Витебск, ул. Гагарина 1056. Т.36-05-42.
Гарантия 1 год
по ценам 94 года - модели 96 года

## *СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ*

## КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях:** 5. Аповесць Р. Баравіковай. 9. Наклееная на тканіну лекавая маса. 12. Камфартабельная гасцініца. 13. Чалавекападобная жывёліна. 14. Возера ў Бярэзінскім запаведніку. 16. Галіна тэкстыльнай вытворчасці. 18. Пункт нябеснай сферы. 20. Дэталь колавага блока машыны. 23. Беларускі паэт, аўтар кніг «Поўня», «Побач», «Павага». 24. Імя галоўнай гераіні рамана Л. Талстога «Вайна і мір». 25. Рэдка-сятчастая тканіна. 26. Керамічны выраб для абліцоўкі печаў, сцен. 27. Топкае балота. 28. Асадкавая пясчана-гліністая парода. 32. Галіна сельскагаспадарчай вытворчасці.

**Па вертыкалях:** 1. Прэснаводная рыба. 2. Ручная сельгаспрылада. 3. Край пераплёту, вокладкі. 4. Горад у Маўрытаніі. 6. Тайнапіс, пісьмо ўмоўнымі, шыфраванымі знакамі. 7. Раздзел навукі аб прыродзе. 8. Замкнутая грамадская групоўка. 10. Спосаб нарыхтоўкі і захоўвання кармоў. 11. Пост, ахова. 14. Абавязковы збор грошай. 15. Лісцевае дрэва, з ягад якога вырабляюць фарбу. 17. Шарсцяная тканіна ўзорнага пляцення. 19. Апытанне падследнага. 21. Вучэнне аб маралі. 22. Гарызантальная частка дымахода. 28. Уладанне, магутнасць. 29. Слабаалкагольны напой. 30. Натрыевая соль. 31. Сталіца дзяржавы ў Паўднёвай Амерыцы.

**Склаў Віктар СУХАРАЎ.**
*г.п. Бялынічы.*



## АДКАЗЫ І РАШЭННІ

**КРЫЖАВАНКА (3 лютага). Па гарызанталях:** 5. Аўдотка. 6. Мазанік. 9. Ванты. 10. Абкатка. 11. Горад. 12. Баскунчак. 14. Трактат. 16. «Салавей». 18. Каток. 20. Анкерыт. 21. Славяне. 24. Аброк. 26. Антыфон. 28. Эквадор. 29. Ліманаўка. 32. Архар. 33. «Адплата». 34. Брыль. 35. Жыновіч. 36. Лаўрэат. **Па вертыкалях:** 1. Адэта. 2. Аксалат. 3. Валапас. 4. Ангоб. 5. Анафара. 7. Кларнет. 8. Капуста. 12. Баскетбол. 13. Каравайка. 15. «Крыніцы». 17. Асяніна. 18. Крыга. 19. Калок. 22. Гранула. 23. Антураж. 25. Кобальт. 27. Нікасія. 28. Экватар. 30. Фауна. 31. Артэк.

**ЧАЙНВОРД «А» (3 лютага).** 1. Адвага. 2. Арэса. 3. Арабейка. 4. Анаконда. 5. Ангілейка. 6. Анемона. 7. Апанасенка. 8. Апека. 9. Азёмша. 10. Арбіта. 11. Арка. 12. Асьміна. 13. Анкара. 14. Аксіёма. 15. Анапа. 16. Арсенал. 17. Асіна. 18. Андатра. 19. Ажэшка. 20. Аптэка. 21. Аўрора. 22. Арызона. 23. Арэхаўка. 24. Абза. 25. Алеша.

ЭнімА
ПАВАГОННАЯ ПАСТАЎКА АМІЯЧНАЙ САЛЕТРЫ
*Магчымы бартэр*
Тэл.: (8-0222)
22-95-75, 22-53-01

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 5-68-24, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113326. Індэкс 63850.
Зак. № 701.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12